15 мая 2015 | № 19 (436)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Кітайскае выратаванне**
стар. 3

**6 РУСКІЯ — ЯНЫ ЯКІЯ?**

Гэтым нарысам НЧ распачынае серыю матэрыялаў пра рускамоўную грамаду краінаў Балтыі. Хто яны, рускія: пятая калона ці сапраўдныя грамадзяне? Што іх турбуе і чаго яны прагнуць?

**4 ФУРУСАВА — ГЭТА ГАЛАВА!**

Беларускія паслядоўнікі літаратурных пікейных камізэлек жывуць надзеямі на структурныя рэформы

**11 ЕМЕНСКІ ХАОС**



**14–15 НЕВЯДОМАЕ: ЗГАДКІ, НАВЕЯНЫЯ ЛІСТОМ**

Арсень Ліс у сваіх паперах патрапіў на даўні, 1970 года, ліст Уладзіміра Калесніка. І вось што ўзгадалася



# Фрыкі ў трэндзе

**Да таго, што ў выбарах рознага ўзроўню ўдзельнічаюць фрыкі ад палітыкі, мы прызвычаіліся. Але каб яны рабілі больш, чым тытульная апазіцыя?**



Сяргей ПУЛЬША

Па разліках старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай, галасаванне на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі павінна адбыцца не пазней як 15 лістапада гэтага года. Але тытульная апазіцыя пакуль што не варушыцца.

З адзіным кандыдатам на выбарах беларускія дэмакратычныя сілы не вызначыліся. Але і «параду кандыдатаў» пакуль што не назіраецца. Звычайна за паўгода да выбараў ужо больш-менш вядома, хто на што прэтэндуе. У нас жа — поўная цішыня і спакой.

Пакуль мы ведаем толькі аднаго чалавека, які дакладна пойдзе змагацца за прэзідэнцтва. Гэта лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. Яго ўжо даўно высунуў з'езд АГП, і ён неаднаразова казаў, што гатовы да «палітычнай кампаніі». Што тычыцца астатніх — сумневы дагэтуль застаюцца.

Ад ініцыятывы «Народны рэферэндум» вызначаная кандыдаткай Тацццяна Караткевіч. Але ў самой Тацццяны становішча няўцямнае — з'езд кампаніі «Гавары праўду», якая яе высунула кандыдаткай ад НР, адбудзецца толькі ў канцы мая. То бок, сама «Гавары праўду» зараз знаходзіцца ў падвешаным стане, што ўжо казаць пра прэзідэнцкую кампанію...

Паплечнік Караткевіч Андрэй Дзмітрыеў на фэсце «Mediabarcamp», які днямі прайшоў у Літве, заявіў, што для Тацццяны плануецца «анлайн-кампанія». Ва ўсіх узнікла пытанне: а што, выбары ў нас праходзяць у інтэрнэце? Да таго ж, прыклад «анлайн-кампаніі» ў нас ужо быў у 2006 годзе, калі ў прэзідэнты «ішоў» палітолаг і метадолаг Уладзімір Мацкевіч. Справа не дайшла нават да рэгістрацыі ініцыятыўнай групы, спроба балатавацца была названая «арганізацыйна-дзейнаснай гульнёй».

Не так даўно мы даведаліся і пра прэзідэнцкія амбіцыі лідара партыі левых «Справядлівы Свет» Сяргея Калякіна. Але, як і ў «Гавары праўду», з'езд партыі, які павінен яго зацвердзіць кандыдатам, яшчэ не адбыўся. Пра сябру ТБМ Алену Анісім — яшчэ адну патэнцыйную кандыдатку — не чуваць нічога. Беларуская хрысціянская дэмакратыя пацыху працягвае фармаваць ініцыятыўную групу Мікалая Статкевіча, якая, зразумела, не будзе зарэгістравана, бо Статкевіч не з'явіцца з турмы ў ЦВК, каб асабіста падаць склад гэтай ініцыятыўнай групы для рэгістрацыі.

Ёсць яшчэ сталы спарынг-партнёр Аляксандра Лукашэнкі на ўсіх выбарах — лідар ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч. Пасля таго, як ён узамен на падтрымку паабяцаў дзеячам дэмакратычнай апазіцыі месцы ў будучым урадзе, пра яго збольшага нічога не чуваць.

Гэта, бадай, уся раскладка прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка Беларусі, выключаючы адсюль, канешне, Аляксандра Лукашэнку. І яшчэ аднаго кандыдата — Юрыя Шульгана.

Юрый Шульган — незалежны кандыдат, які быў падтрыманы Беларускай партыяй «Зялёныя». Ён пачаў агрэсіўную рэкламную кампанію. Пазіцыяную сябе як «дармаед у дэкрэце», 15 год нідзе не працаваў, і ягоны адзіны шанец працаўладкавання — заняць пасаду прэзідэнта.

Фрык? Адназначна! Але ў гэтага фрыка ўжо запушчаны сайт выбарчай кампаніі, на якім кожны можа падпісаць петыцыю ў падтрымку ягонага працаўладкавання — то бок, ён збірае ініцыятыўную групу. Распрацаваны лагатып кампаніі. Ужо створаныя макеты перадвыбарчых плакатаў (дарэчы, вельмі прывабныя і нестандартныя, у выглядзе кінаафішаў), запісаны і змешчаны ў інтэрнэце першы відэазварот прэтэндэнта на прэзідэнта. Набірае колькасць «лайкаў» ягоная старонка ў сацсетцы Facebook, інтэрв'ю з Шульганом друкуе Naviny.by.




Узнікае заканамернае пытанне, а хто тут фрык? Тытульная апазіцыя, якая пакуль што пальцам не паварушыла дзеля прэзідэнцкай кампаніі, альбо «дармаед у дэкрэце», які за месяц зрабіў палову працы для паспяховага пачатку агітацыі?

**«Дармаед у дэкрэце» можа атрымаць 30% галасоў**

Ужо неаднаразова падобныя фрыкі выштурхоўваюць з палітычнай прасторы сур'ёзных, але непаваротлівых апанентаў. Узгадайма, напрыклад, коміка і блогера Бэпе Грыла ў Італіі, над якім спачатку ўсе смяяліся, а ў выніку на парламенцкіх выбарах ён узяў трэцяе месца, апярэдзіўшы нават уладную на той момант кааліцыю цэнтрыстаў. Альбо, каб далёка не хадзіць, — прэзідэнцкія выбары ў Польшчы, першы тур якіх адбыўся літаральна днямі. Хто мог уявіць, што рок-музыка і журналіст з папулісцкімі і ўяўна «трэшавымі» лозунгамі (напрыклад, скасаваць існую выбарчую сістэму) Павел Кукіз возьме на іх больш за 20 працэнтаў і апынецца на трэцім месцы?

Калі тытульная апазіцыя будзе надалей спаць, то я не здзіўлюся, што Шульган атрымае і рэгістрацыю кандыдатам у прэзідэнты, і 30 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў. Проста акрамя яго больш «пратэстнаму электарату» не будзе за каго галасаваць. Праўда, у выпадку, калі галасы падлічаць...

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БЫХАЎ. Міліцыя не задаволеная



**Ад магіляўчанкі Наталлі супрацоўнікі міліцыі патрабавалі распіску, што яна не мае ніякага дачынення да размяшчэння інфармацыі пра ўчастковага на сайце Праваабарончага цэнтра «Вясна».**

Некалькі дзён таму быхаўскія супрацоўнікі міліцыі з'явіліся ў Магілёў да жанчыны на разбіральніцтва. Нагодай для іх візіту стала скарга ў Магілёўскую абласную пракуратуру ў сувязі з бяздзейнасцю аднаго з іх супрацоўнікаў, які адмовіўся дапамагаць жанчыне, а таксама размяшчэнне інфармацыі пра гэты выпадак у інтэрнэце.

Пра візіт людзей у пагонах распавяла Наталля, якая шукала дапамогі ў быхаўскай міліцыі, а атрымала адмову.

«Я хацела напісаць заяву ў міліцыю, што мой былы муж самавольна раздзяліў дом і без майго ўзгаднення разараў частку прысядзібнага ўчастка. Справа бытавая, аднак мяне праігнаравалі, і я была вымушана пісаць скаргу ў Магілёўскую абласную пракуратуру. Па рашэнні суда 2/3 часткі дома належыць мне. Астатняе — мужу. Але ён вырашыў, што ўваход у дом мусіць застацца за ім, а я павінна ў сваю частку дома лазіць праз вакно», — кажа Наталля.

Калі жанчына прыйшла ў міліцыю, то ёй сказалі, што ўчастковага няма на месцы, аднак далі ёй яго мабільны тэлефон. Калі ж жанчына пазваніла яму, то ён сказаў, што спіць, і гэтай справай займацца не будзе. Апроч таго, ён не перадаручыў справу нікому іншаму. Калі ж трэба патрапіць у хату, то ён парэкамендаваў зрабіць гэта праз вакно, калі ж дзверы ў дом будуць узламаныя, то ён складзе на Наталлю пратакол.

Жанчына адзначае, што на момант звароту была на 9-м месяцы цяжарнасці, аднак і гэта не стала аргументам для быхаўскай міліцыі. Праваахоўнікі таксама высвятлялі, хто ёй параіў напісаць скаргу, ды яшчэ ў пракуратуру Магілёўскай вобласці. Наталля параіла міліцыі пакараць свайго супрацоўніка па ўсёй строгасці закона і не надакучваць ёй размовамі не па справе.

### ГОМЕЛЬ. Праваабаронцу апыталі ў якасці сведкі



**13 мая ў Гомельскае абласное ўпраўленне Следчага камітэта быў выкліканы для апытання ў якасці сведкі па крымінальнай справе праваабаронца, старшыня Гомельскага аддзялення РГА «Прававая ініцыятыва» Леанід Судаленка.**

Нагадаем, Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па частцы 2 артыкула 343 КК (распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў з выкарыстаннем сеткі інтэрнэт). Парнаграфічныя матэрыялы нібыта са скрынкі sudalenko@mail.ru і з IP-адрасу, зарэгістраванага ў грамадска-палітычным цэнтры на Палескай, 52 у Гомелі, былі дасланыя ў інспекцыю па падатках і зборах па Савецкаму раёну і ў абласное ўпраўленне Следчага камітэту.

13 мая апытанне тычылася ў большасці тэхнічных пытанняў: калі праваабаронца займеў сваю электронную скрынку, як доўга карыстаўся ёй, хто меў доступ да інтэрнэту праз Wi-Fi на Палескай, 52.

Следчы паведаміў, што камп'ютэры, якія забралі ў часператрусу на Палескай, 52, перададзены на экспертызу, і, магчыма, пасля правядзення экспертызы будуць вернуты ўладальнікам. Таксама следства накіравала запыты ў службу Mail.ru. Як правіла, адказы на запыты можна чакаць месяц, два і нават больш.

Яшчэ раней гомельскі праваабаронца прадставіў следству доказы таго, што ён не датычны да злачынства. У прыватнасці, Леанід Судаленка прадставіў сканы перапіскі з тэхнічнай службай Mail.ru аб тым, што дадзеная электронная скрынка ўзламаная са снежня 2014 года, і праваабаронца яе не кантраляваў. А Wi-Fi маглі карыстацца мноства людзей, якія наведваюць мерапрыемствы ў грамадска-палітычным цэнтры.

Нагадаем, 8 красавіка ў грамадска-палітычным цэнтры ў Гомелі на Палескай, 52 прайшоў ператрус, міліцыя забрала нібыта для праверкі ў межах крымінальнай справы чатыры сістэмныя блокі камп'ютэраў. Ператрус прайшоў і на кватэры Леаніда Судаленкі, які на той момант знаходзіўся ў Швецы на канферэнцыі праваабаронцаў.

Праваабаронца звяртае ўвагу, што раней ён патрабаваў ад УУС Гомельскага аблвыканкама ўстанавіць IP і тых людзей, якія на адным з сайтаў не толькі перыядычна публікуюць абразы ў бок праваабаронцы, але апошнім часам і пагражаюць забойствам яго дзецям. Ні IP, ні тых асоб, хто змяшчае дадзеныя пагрозы, міліцыя не ўстанавіла, аб чым і дала адказ.

У грамадска-палітычным цэнтры на Палескай, 52 ужо неадназразова забіралі камп'ютэрную тэхніку пад рознымі нагодамі — у 2001, 2007 і 2011 гадах.

**Паводле spring96.org**

# Еўрапарламентары распачынаюць кампанію салідарнасці

**12 мая ў Брусэлі віцэ-прэзідэнт Партыі «Альянс лібералаў і дэмакратаў за Еўропу» (ALDE), прадстаўнік Ліберальнага руху Літвы Петрас Аўштрэвічус сустрэўся з роднымі шасці беларускіх палітвязняў, якія прыехалі падзяліцца досведам і абмеркаваць становішча з правамі чалавека пры рэжыме Аляксандра Лукашэнкі.**

Падчас сустрэчы была абвешчаная кампанія «Парламентары за Свабоду» (MEP4Freedom), у межах якой парламентары, якія прадстаўляюць розныя краіны і розныя палітычныя сілы, сталі апекунамі беларускіх палітвязняў. «Парламентары за Свабоду» — знак салідарнасці і маральнай падтрымкі, што вітаецца не толькі палітзняволенымі, але і іхнымі роднымі, сябрамі і калегамі напярэдадні саміта Усходняга партнёрства ў Рызе ды прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

Напрыканцы сустрэчы Петрас Аўштрэвічус сказаў: «Еўропа мусіць быць вольнаю ад палітзняволеных і пераследу за палітычныя погляды. Я ўпэўнены, што ЕС мусіць працягваць ціск і заклікаць да вызвалення палітвязняў перад самітам Усходняга партнёрства ў Рызе».

Прэс-служба «Альянсу лібералаў і дэмакратаў за Еўропу» падкрэслівае, што становішча з правамі чалавека ў Беларусі пагаршаецца з 1994 года, калі Аляксандр Лукашэнка стаў прэзідэнтам. Пры ягоным кіраўніцтве аўтарытарны ўрад выкарыстоўвае комплекс абмежавальных законаў і мераў пераследу, што мае вынікам сістэматычнае парушэнне правоў чалавека ў адносінах да грамадзян Беларусі. Апазіцыя, грамадзянская супольнасць і праваабаронцы знаходзяцца ў найуразлівым становішчы, зазнаючы пастаянны ўціск і маргіналізацыю датычна такіх правоў, як свабода аб'яднанняў і свабода слова, якія надзвычай важныя для існавання здаровай і сучаснай дэмакратыі.

Апякунства еўрапейскіх парламентароў над палітычнымі вязнямі павінна паказаць беларускім уладам, што каштоўнасці дэмакратыі застаюцца важнымі нават на тле вялікіх геапалітычных зрухаў, заўважыла жонка палітвязня Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч.

Гэтая ініцыятыва еўрапейскіх дэпутатаў азначае, што ў кожнага з беларускіх палітычных зняволеных з'явіўся прадстаўнік у дэмакратычных інстытутах еўрапейскіх краін.

**Паводле spring96.org**

# Жыхары Дзяржынска супраць

Марат ГАРАВЫ



**Жыхары райцэнтра Дзяржынск выступаюць супраць запланаванага да 2020 года зносу сядзібнай забудовы на вуліцы Першай Ленінскай, дзе знаходзіцца 67 прыватных домаўладанняў. Пра гэта паведаміла карэспандэнту НЧ жыхарка Дзяржынска Алена Лаўрова.**



Паводле яе слоў, калі ў лістападзе мінулага года яна звярнулася ў райвыканкам, каб падпісаць новы тэхнічны пашпарт на дом, дык атрымала адмову на той падставе, што прыватныя домаўладанні вуліцы запланаваны пад знос для будаўніцтва шматпавярховак. Чыноўнік прапанаваў жанчыне зноў звярнуцца ў райвыканкам пасля грамадскага абмеркавання генеральнага плана рэканструкцыі горада, якім прадугледжаны знос сядзібнай забудовы на шэрагу вуліц райцэнтру, у тым ліку і на Першай Ленінскай.

Дарэчы, грамадскае абмеркаванне было прызначана на 29 красавіка а 16.00, калі многія зацікаўленыя гараджане былі на працы, і таму не змаглі прысутнічаць на гэтай важнай для кожнага домаўладальніка сустрэчы. Тым не менш, у грамадскім абмеркаванні ўдзельнічалі каля 100 гараджанаў, з якіх амаль добрая палова — жыхары Першай Ленінскай. Падчас гэтай сустрэчы з гараджанамі чыноўнікі запэўнілі людзей у тым, што ад аўтараў праекта нічога не залежыць, бо яны толькі выконвалі ўказанне Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва.

Аўтары праекту матывавалі запланаваны знос сядзібнай забудовы неабходнасцю рассялення жыхароў сталіцы ў гарады-спадарожнікі Мінска, у тым ліку і ў Дзяржынск, а таксама тым, што вуліца Першая Ленінская непрыгожая і забудаваная, у асноўным, старымі драўлянымі трухлявымі дамамі. Дарэчы, з гэтымі доказамі цяжка пагадзіцца, бо вуліца Першая Ленінская даволі ўтульная: шырокая, зялёная, заасфальтаваная і мае ходнікі, а дамы на ёй амаль усе добра дагледжаныя. Так, дом спадарыні Алены, якому 109 гадоў, выглядае вельмі прыстойна, бо гаспадыня клапаціла дагліндае сваё жыллё. «Дарэчы, калі мянялі вокны ў маёй хаце, дык свердзелы ламаліся аб яшчэ моцную драўніну. Так што мая сядзіба яшчэ стагоддзе прастаіць. Аднак чыноўнікі лічаць, што ўсе дамы на нашай вуліцы з'яўляюцца трухлявымі, і ступень іх зносу, незалежна ад года ўзвядзення, вызначылі ў 65 адсоткаў. Пры гэтым абследаванне нашага жылля ніхто не праводзіў», — сказала Алена Лаўрова.

Сама яна жадае і далей жыць у доме сваёй бабулі і на зямлі, а не ў шматпавярховіку. Тым больш, што жыхарам Першай Ленінскай ніхто так і не даў адказ на галоўнае пытанне: а дзе ж яны будуць жыць пасля зносу іх домаўладанняў? А паколькі людзі не могуць атрымаць дакладны адказ на гэтае важнае пытанне, дык карыстаюцца чуткамі, з якіх вынікае, што гараджанаў могуць перасяліць у пасёлак Энергетыкаў ці ў цэнтр сельсавету, вёску Станькава (абодва ў Дзяржынскім раёне). « Хоць чыноўнікі запэўніваюць, што з горада нас ніхто не выселіць. Аднак у Дзяржынску нічога не будуецца. Таму мы больш верым чуткам», — зазначыла Алена Лаўрова.

Яна звярнула ўвагу на тое, што на вуліцы жыве шмат людзей сталага веку. «А сарваць іх з месца — значыць пахаваць. У кожнага гаспадара — невялікі прысядзібны ўчастак зямлі з гародам, дзе вырошчваюць экалагічна чыстая садавіна, гародніна і зеляніна. А заробкі і пенсіі ў нас не настолькі вялікія, каб усё гэта купляць на рынку. Апроч таго, нашыя дзеці і ўнукі не лайдачаць, а працуюць з намі на сваёй зямлі. І гэта вельмі важна для іх працоўнай загартоўкі і выхавання. Пасля ж пераезду ў шматпавярховікі замест працы на зямлі ім застанецца інтэрнэт і піва», — падкрэсліла спадарыня Алена.

Для абароны сваіх маёмасных правоў жыхары Першай Ленінскай збіраюць подпісы пад зваротамі да дэпутатаў розных узроўняў і да старшыні Мінскага аблвыканкама. «Мы разумеем, што калі самі не будзем настойліва і сістэматычна абараняць свае правы, нас ніхто не абароніць», — падкрэсліла Алена Лаўрова.

Яна выказала падзяку актывістам грамадскай ініцыятывы «Еўраперспектыва» Дзянісу Кобрусеву і Віктару Яўмененку за падтрымку жыхароў вуліцы Першай Ленінскай у адстойванні сваіх маёмасных правоў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Кітайскае выратаванне

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мы доўга спадзяваліся, доўга развівалі супрацу, аддавалі ім зручныя кавалкі зямлі. Яны таксама не заставаліся без адказу, даючы нам грошы на мадэрнізацыю дарогаў і ТЭЦ. Зараз нашае супрацоўніцтва можа перарасці ў новую фазу. Гэта я ўсё пра Кітай.**



www.charter97.org

Візіт у Беларусь кіраўніка КНР Сі Цзіньпіна для нас важнейшы нават, чым вельмі добрыя стасункі з Расіяй. Як вядома, Аляксандр Лукашэнка не паехаў на парад у Маскву. Але гэтым ён не «дэманстратыўна адвярнуўся ад Расіі», як кажуць расійскія палітолагі, у яго проста былі справы больш цікавыя. На наступны дзень да яго завітаў таварыш Сі з іншымі таварышамі.

Чаму Сі важнейшы за Расію? Расія ж, падавалася, пад бокам, а Кітай невядома дзе. Але, па-першае, у сучасным свеце Кітай не так ужо і далёка. Па-другое, мы з пачатку года вымольвалі ў Расіі падтрымку нашай эканомікі ў памеры недзе $2,5 мільярда. Нам жа далі няшчасныя $110 мільёнаў, якіх нам хопіць толькі на падтрымку штаноў. Кітайскія ж таварышы маюць грошы і, што больш істотна, прывезлі іх сюды. Падчас візіту кіраўніка Кітая ў сінявокую былі падпісаныя пагадненні і мемарандумы аб звязаным крэдытаванні на агульную суму да $3,5 мільярда на тэрміны ад 10 да 15 гадоў. Прэм'ер Беларусі Андрэй Кабякоў вельмі ўзрадаваўся, падзякаваў кіраўніку дзяржбанка развіцця Кітая Ху Хуай Бану і назваў «камфортнымі па тэрмінах і коштах» крэдытныя рэсурсы, якія прадстаўляюцца Кітаем.

Але не толькі пра крэдыты размова. Справа яшчэ і ў Беларуска-кітайскім тэхнапарку пад Смалявічамі, — гэта «па-трэцяе». Як паведаміла АНТ, да канца 2015 года свае заводы ў тэхнапарку пачнуць будаваць такія гіганты кітайскай прамысловасці, як Huawei і ZTE. ZTE ставіць на «электронныя сродкі сувязі», Huawei — на «прарыўныя навуковыя распрацоўкі».

Калі ўсё гэта будзе пабудавана ў згодзе з планам, Аляксандр Лукашэнка выбівае глебу з-пад кпінаў шмат якіх дамарослых эканамістаў, якія папракаюць яго тым, што за 20 гадоў свайго праўлення ён не пабудаваў у краіне ніводнага буйнога прадпрыемства. Такія прадпрыемствы ў нас з'явяцца, прычым не абы-якія, а высокатэхналагічныя. Нам бы толькі навучыцца на іх працаваць, і тады ўсё сапраўды будзе добра.

У сувязі з «кітайскім прарывам» нам неяк абыякавымі сталі іншыя накірункі дзейнасці. Ну, не з'ездзіў Аляксандр Рыгоравіч на парад у Маскву — і хай сабе. Паглядзіць па тэлевізары тое, што на свае вочы не ўбачыў. Не вельмі нам патрэбны і раней вельмі важны для нас саміт Усходняга партнёрства, які пройдзе ў Рызе 21–22 мая. Прынамсі, прэм'ер Латвіі Лаймдота Страўюма лічыць, што беларускі кіраўнік на гэтым саміце не з'явіцца, бо да гэтага часу няма інфармацыі, хто будзе прадстаўляць Беларусь на гэтым мерапрыемстве, у той час як іншыя краіны ўжо вызначыліся з узроўнем свайго прадстаўніцтва. Удзел у саміце пацвердзілі прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка, прэзідэнт Арменіі Серж Саргсян, прэзідэнт Азербайджана Ільхам Аліеў, прэзідэнт Малдовы Мікалай Цімофці і прэм'ер Грузіі Іраклій Гарыбашвілі. То бок, нам Усходняе партнёрства ўжо нібыта і не патрэбнае.

Але ж крэдыты — крэдытамі, аднак і самім зарабляць трэба ўмець. Як вядома, нашая эканоміка зараз збольшага стымулюецца ўнутраным попытам. То бок, людзьмі, якія нешта набываюць. І гэты ўнутраны попыт дзяржава таксама вымушана стымуляваць. Прынамсі, улады Мінска прынялі рашэнне аб працягу рэжыму працы суб'ектаў гандлю, грамадскага харчавання і сферы паслуг.

«Прымаючы пад увагу, што падаўжэнне рэжыму працы з'яўляецца важным інструментам у павелічэнні паказчыкаў рознічнага тавараабароту… прынята рашэнне аб працягу рэжыму працы суб'ектаў гандлю і грамадскага харчавання, сферы паслуг (за выключэннем гандлёвых аб'ектаў, размешчаных у жылых дамах) у маі-жніўні 2015 года па заяўным прынцыпе», — гаворыцца ў паведамленні Мінгарвыканкама.

Што гэта значыць? Гэта значыць, Мінгарвыканкам фактычна вярнуў гандлёвым кропкам магчымасць працаваць кругласутачна. Нават па заяўным прынцыпе, то бок без асаблівага дазволу. Праўда, толькі на летні перыяд, але ў нас нічога не бывае больш трывалага, чым часовае. Аднак сімптом ёсць: ці варта раней было забараняць «начнікі», каб зараз іх дазваляць, прычым па заяўным прынцыпе?

Але адначасова (што не можа не ўзрадаваць) улады не зусім страцілі свядомасць. Яны выдатна ўсведамляюць, што «начнікі» існуюць у асноўным для тых, хто «не дагнаўся» зарання. Ужо з 14 мая дзейнічаюць новыя абмежаванні на продаж тытунёвай і алкагольнай прадукцыі. Напрыклад, забараняецца продаж алкагольных напояў, насення маку, тытунёвых вырабаў «па ўзорах па-за гандлёвымі аб'ектамі», гэта значыць па каталогах, у інтэрнэт-крамах і г.д.

Да 1 ліпеня 2015 года крамам і грамхарчу прыйдзецца зрабіць перапланіроўку, паколькі з 1 ліпеня ўступаюць у сілу ўзмацненні жорсткасці па размяшчэнні алкагольных і тытунёвых вырабаў. «У вітрыне гандлёвых аб'ектаў, агляд якой магчымы звонку такіх аб'ектаў, забараняецца выстаўляць узоры алкагольных напояў», — гаворыцца ў дакуменце па пытанні алкаголю. «У вітрынах, на (у) іншым гандлёвым абсталяванні не дапускаецца выкладка тытунёвых вырабаў (іх узораў). Інфармацыя пра тытунёвыя вырабы, якія рэалізуюцца ў гандлёвых аб'ектах і аб'ектах грамадскага харчавання, можа размяшчацца ў выглядзе пераліку тытунёвых вырабаў з указаннем іх назвы і кошту», — адзначаецца наконт тытунёвых вырабаў.

Канешне, пакуль ніхто не адмяняў, і, падаецца, не збіраецца адмяняць забарону на продаж алкаголю пасля 22-х гадзінаў.

Ну і яшчэ адна навіна. Нацбанк адмяніў абмежаванні на правядзенне юрыдычнымі асобамі — рэзідэнтамі авансавых плацяжоў па імпарце. Да цяперашняга часу дзейнічалі абмежаванні на авансавыя плацяжы па імпарце за кошт замежнай валюты, набытай на ўнутраным валютным рынку, за кошт крэдытных рэсурсаў беларускіх банкаў, а таксама за кошт беларускіх рублёў.

Значыць, НБ РБ ужо не баіцца вымывання валюты за межы краіны. Ці не ранавата ў банкіраў з'явіўся такі аптымізм? Крэдыты ад Кітаю мы ўсё ж такі яшчэ не атрымалі, — толькі пра іх дамовіліся.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Міхаіл Ежаль

**Прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка звольніў экс-міністра абароны часоў Януковіча з пасады пасла ў Беларусі. Распараджэнне аб звальненні падпісанае 11 мая.**

У канцы красавіка 2015 года Міністэрства замежных спраў выступіла з прапановай адклікаць Ежаля, а Генпракуратура Украіны даўно адшуквае яго ў якасці падазраванага па справе аб растраце дзяржаўных грошай, яшчэ падчас яго кіраўніцтва Міністэрствам абароны той краіны. Ежаль узначальваў Міністэрства абароны з сакавіка 2010 да лютага 2012 года. У красавіку 2013-га Януковіч прызначыў яго паслом у Беларусі.

У 2014 годзе Генпракуратура Украіны ўжо выклікала Ежаля на допыт па ягонай справе, але тады яшчэ пасол своечасова лёг у мінскі вайсковы шпіталь, і на допыт не з'явіўся. У красавіку 2015-га беларуская пракуратура адмовілася адказваць на запыт ГПУ адносна таго, ці сапраўды Ежаль лечыцца ў Мінску. Народны дэпутат Украіны Ігар Гузь выказаў меркаванне, што Ежаль не адважыцца вярнуцца ва Украіну, і ўжо пакінуў сінявокую, каб схавацца на тэрыторыі Расіі.



## Ігар Шуневіч

**Міністр унутраных спраў Беларусі здзівіў, а некаторых і напужаў. Ён з'явіўся на парадзе ў форме, якую насілі ў 40-х гадах мінулага стагоддзя.**

Падчас параду 9 мая ўсе высокія чыноўнікі стаялі вакол Аляксандра Лукашэнкі або ў цывільных строях, або ў парадных вайсковых мундзірах. А вось Ігар Шуневіч чамусьці быў у цёмна-сіняй гімнасцёрцы з жорсткім каўнерыкам, партупеі, галіфэ з бірузовымі лампасамі, запраўленымі ў боты, і сіняй фуражцы з бірузовым аколышам. Некаторыя спужаліся: ягоная форма нагадвала мундзір супрацоўнікаў НКУС СССР.

Прэс-служба МУС каментаваць маскарад свайго начальніка адмовілася. Сам Шуневіч патлумачыў журналістам, што «ў гэтай форме калегі здзяйснялі подзвігі і паміралі». «Гэта даніна павагі да іх», — лічыць ён.

Насамрэч, пужацца не трэба. Шуневіч апрануў не НКУСаўскую, а старую міліцэйскую форму. Яна толькі ў дробязях адрозніваецца ад формы НКУС, але ж адрозніваецца.



## Вікторыя Азаранка

**Знакамітая беларуская зорка тэнісу вяртаецца да страчаных вышыняў.**

Днямі Вікторыя Азаранка зноў трапіла ў топ–30 сусветнага рэйтынгу Жаночай тэніснай асацыяцыі. Яна паднялася на дзве пазіцыі ў гэтым сусветным рэйтынгу, бо на мінулым тыдні нядрэнна выступіла на прэстыжным турніры ў Мадрыдзе, дабраўшыся да 1/8 фіналу, дзе ва ўпартай барацьбе саступіла першай ракетцы планеты амерыканцы Серэне Уільямс. Пасля гэтага Вікторыя Азаранка мае ў сваім актыве 1543 балы і займае 29-е месца ў рэйтынгу Жаночай тэніснай асацыяцыі.

Будзем спадзявацца, што гэта яшчэ не «столь» для Азаранкі. У прынцыпе, яна гэта і даказвае. Беларуская тэнісістка 12 мая на турніры WTA катэгорыі «Прэм'ер» у Рыме абыграла чэшку Люсі Градэцку. Сустрэча працягвалася 2 гадзіны 24 хвіліны і скончылася з лікам 7:5, 2:6, 6:1. Наступнай супернiцай Азаранкі стане Каралін Вазняцкі.

Вікторыя Азаранка ў восьмы раз выступае на рымскім турніры. Яе лепшым вынікам з'яўляецца выхад у фінал 2013 года, у якім яна саступіла Серэне Уільямс. Турнір у італьянскай сталіцы завершыцца 17 мая.

Азбука паліталогіі

# Фурусава — гэта галава!



Сяргей НІКАЛЮК

**Беларускія паслядоўнікі літаратурных пікейных камізэлек жывуць надзеямі на структурныя рэформы.**

Я рэгулярна карыстаюся Вікіпедыяй. Зручна і аператыўна. Набіраю слова — і праз долі секунды атрымліваю адказ. Напрыклад, «локус кантролю» (ад лац. «locus» — «месца» і «controle» — «праверка») — паняцце ў псіхалогіі, якое характарызуе ўласцівасць асобы прыпісваць свае поспехі ці няўдачы ўнутраным або знешнім фактарам. Схільнасць прыпісваць вынікі дзейнасці знешнім фактарам называецца «знешні локус кантролю». Схільнасць прыпісваць вынікі дзейнасці ўнутраным фактарам называецца «ўнутраны локус кантролю».

А цяпер, пасля засваення тэарэтычнага курсу, прапаную заняцца практычнай псіхалогіяй. Я прывяду выказванні дзяржаўнага дзеяча, а чытачы папрактыкуюцца ў вызначэнне яго локуса кантролю.

*«Причины возникшей сложной ситуации в экономике очевидны: санкции против главного нашего партнера, падение цен на нефть, девальвация российского рубля, сужение российского рынка. Все это привело к естественному и резкому понижению сбыта продукции на рынках наших ключевых партнеров не только в Беларуси, но и в самой России, Украине и Казахстане, на всем постсоветском пространстве».*

Нагадваю, неабходна вызначыць не аўтара выказвання. Аўтарства пытанняў не выклікае. Для тых, у каго паўсталі цяжкасці з першай цытатай, прыводжу другую: *«Кризисы когда-либо закончатся, рано или поздно, мы уже эти кризисы переживали не единожды, но когда выходишь из кризиса, и на твою продукцию есть спрос, а нет рабочего люду, нет рабочего класса, который производил эту продукцию, тогда беда».*

Спадзяюся, знаўцы кітайскай філасофіі і без маёй падказкі адчулі ўплыў Канфуцыя на нашага сучасніка. Яны маюць рацыю: «Сядзі спакойна на беразе ракі, і міма праплыве труп твайго ворага».

## Не да мадэрнізацыі

Крызіс — гэта этап у развіцці сістэмы, калі сістэма аказваецца не ў стане адказаць на зменлівыя знешнія выклікі. Калі пагадзіцца з такім вызначэннем, то парада Канфуцыя можа апынуцца і бескарыснай.

Так, крызісы выклікаюцца знешнімі прычынамі. Але нават цяжарнасць выклікаецца знешняй прычынай. З гэтага факту, аднак, не вынікае, што жанчына павінна проста чакаць яе заканчэння. Тут магчымы выхад на скрыжаванне. Але і крызіс — гэта выхад на скрыжаванне. Ён дае магчымасці як для развіцця, так і для дэградацыі.

Выбар за палітычнай элітай. У красавіцкім пасланні адзінага палітыка (АП) тэма выбару стала цэнтральнай.

Ён пачаў з ацэнкі бягучай сітуацыі. Эканоміка — *«гарант нашей независимости»*, і сёння яна *«переживает не лучшие времена»*. Чаму? Таму што *«внешние факторы нам неподвластны»* і *«проблемы соседей немедленно становятся нашими собственными»*.

Для змены часоў (не самых лепшых на спрыяльныя) АП прапанаваў да канца года прыняць 10 важных рашэнняў, якія павінны забяспечыць новыя фактары росту. Пад уражаннем круглай лічбы расійская «Незалежная газета» на наступны дзень апублікавала артыкул пад кідкім загалоўкам «Лукашэнка адважыўся на эканамічныя рэформы».

Сапраўды, слова «рэформы» чатыры разы было згадана ў дакладзе, але як бы між іншым. Затое ўпершыню за апошнія 14 гадоў у пасланні не знайшлося месца для слова «мадэрнізацыя». Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. Новыя фактары росту — гэта набор адміністрацыйных мераў, накіраваных на павышэнне, узмацненне і ўдасканаленне. Іх аб'ядноўвала ў адзін пакет... адсутнасць патрэбы ў фінансаванні. Казна пустая. Рэальныя даходы насельніцтва падаюць. Не да мадэрнізацыі.

## Новая эканамічная ідэя

Пікейныя камізэлькі ў рамане Ільфа і Пятрова «Залатое цяля» любы факт разглядалі як прэлюдыю да абвяшчэння Чарнаморска вольным горадам. Іх беларускія паслядоўнікі жывуць надзеямі на хуткія структурныя рэформы. Яны не чытаюць «Праўду», але актыўна наведваюць апазіцыйныя сайты.

— Чыталі, беларуская дэлегацыя прыняла ўдзел у вясновай сесіі МВФ.

— Кажуць, намеснік старшыні праўлення Нацбанка Сяргей Калечыц уручыў намесніку дырэктара-распарадчыка фонду Міцухіра Фурусаве «дарожную карту».

— Фурусава — гэта галава! А вы чулі, прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў вітаў узважаны падыход Сусветнага банка да аналізу эканамічнай сітуацыі ў нашай краіне?

— Я скажу вам шчыра, Кабякову пальца ў рот не кладзі. Я б свой палец не паклаў...

У красавіку цудоўную нагоду для такога кшталту размоваў даў памочнік прэзідэнта па эканамічных пытаннях Кірыл Руды, які апублікаваў у «Беларускім эканамічным часопісе» артыкул «Структурныя эканамічныя рэформы: неабходнасць для Рэспублікі Беларусь і замежны досвед».

Прызнаюся, раздзел, прысвечаны пагаршэнню нацыянальнай эканомікі і дэфіцыту фінансавання, зрабіў на мяне вялікае ўражанне. Пераканаўчых лічбаў шмат. Абмяжуюся адным прыкладам. 2011 год у гісторыі беларускай мадэлі быў апошнім, калі прырост ВУП перавысіў сярэднесусветны. У бягучым годзе чакаецца падзенне. Апраўданасць негатыўных чаканняў пацвярджае вынік першага квартала (-2%).

Што прапануе аўтар? Аўтар прапануе рэформу структуры эканомікі. І зноў лічбы, лічбы. На гэты раз яны запазычаныя з міжнароднай статыстыкі. З іх дапамогай памочнік прэзідэнта ацэньвае структурныя эканамічныя рэформы ў 26 (!) краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і СНД.

Сацыякультурныя асаблівасці краін пры гэтым ігнаруюцца. Нагадаю, аўтар — памочнік АП па эканамічных пытаннях. Таму так натуральна ён аперуе міжкраінавай статыстыкай: «Найбольшы адток рэсурсаў быў ва Узбекістане — у 1993 г. (20,4% ад агульнай колькасці працоўных рэсурсаў), Грузіі — у 1992 г. (16,9%), Венгрыі — у 1991 г. (5,4%)...» І так на 6 старонках.

Але ўсе лічбы паспелі стаць гісторыяй, аўтар жа заклапочаны будучыняй Беларусі. У яе прапануецца ўвайсці з дапамогай «Новай эканамічнай ідэі». Цытую: «Для новага эканамічнага рыўка неабходныя грамадская энергія, маральна-псіхалагічная матывацыя, натхненне, нацэленае не столькі на выкананне даручэнняў, колькі на стварэнне, стварэнне новага ў эканоміцы. Для гэтага патрэбна зарадзіць найбольш крэатыўную частка грамадства (навукоўцаў, прадпрымальнікаў, дзяржапарат) новай вялікай ідэяй, якая б аб'яднала ўвесь соцыум. Такой ідэяй можа стаць, напрыклад, «калектыўны лібералізм», які прадугледжвае не плюралізм рознанакіраваных меркаванняў і рухаў, а грамадскую засяроджанасць на вырашэнні канкрэтнай эканамічнай задачы».

## З «большасці» на «меншасць»

Беларуская мадэль выбудавана па прынцыпу ўнітарнага прадпрыемства, г.зн. прадпрыемства з адным уладальнікам (УП «Беларусь»). Імя ўладальніка ўсім добра вядомае. Таму перш чым аналізаваць прапановы чарговага рэфарматара, неабходна зразумець, што ўласна прапануецца рэфармаваць: асобныя элементы ўнутры УП або само УП.

У першым выпадку рэформы не прынясуць карысці. У другім — без згоды ўладальніка УП рэформы немагчымыя.

Аўтар прапануе ажыццявіць рывок за кошт маральна-псіхалагічнай матывацыі найбольш крэатыўнай часткі грамадства (навукоўцы, прадпрымальнікі, дзяржапарат). Калі выключыць з пераліку дзяржапарат, то ў сухім астатку мы атрымаем тыповых прадстаўнікоў беларускай «меншасці».

Аднак уладальнік УП ужо два дзясяткі гадоў абапіраецца на «большасць», якая не прэтэндуе на крэатыўнасць. Ці ўсведамляе аўтар ступень радыкальнасці сваёй прапановы? Думаю, усведамляе, але не да канца. Адсюль прызнанне, што «без палітычнай волі не будзе ні падтрымкі, ні даверу да рэформаў».

Але палітычнай воляй у Беларусі валодае толькі адзін чалавек. У адрозненне ад свайго памочніка, ён выдатна разумее, што перанос апоры з «большасці» на «меншасць» у гістарычнай навуцы прынята называць «буржуазнай рэвалюцыяй». Але ці варта дзеля рэвалюцыі, няхай нават і буржуазнай, праяўляць палітычную волю?

## Д'ябал хаваецца ў дэталях

Абгрунтаванасць маіх сумненняў рэгулярна пацвярджае сам уладальнік УП. Прыводжу прыклад, запазычаны з афіцыйнага прэс-рэлізу: *«Вот вы говорите, что щепу девать некуда. Давайте решим следующим заходом, что будем делать со щепой, коль рынок просел за пределами. Это мы должны сделать как можно быстрее. Начертим каждому губернатору, сколько он должен построить котлов, где он построит эти котлы, чтобы сжечь 1,5 млн. куб. м щепы».*

Нагадаю, памочнік АП прапануе грамадскую энергію накіраваць не «на выкананне даручэнняў, колькі на стварэнне, стварэнне новага ў эканоміцы». А чым у гэты час заняты сам АП? Ён вырашае прыватную праблему будаўніцтва катлоў. Вырашае ў звыклым для сябе стылі.

Жыццё, такім чынам, ідзе сваёй чарадой, а навукападобныя развагі па яго рэфармаванні — сваёй. І ў гэтым паралельным руху няма нічога новага і арыгінальнага.

Але не будзем адчайвацца. Крыху міжнароднай статыстыкі, якую так любіць памочнік прэзідэнта. Калі ў перыяд з 1820-х да 1950-х гадоў дэмакратычныя краіны павялічвалі падушавы ВУП у сярэднім на 2% у год, а дыктатуры — на 0,86%, то з 1950 года гэтыя паказчыкі складаюць 2,4% і 2% адпаведна.

Але д'ябал любіць хавацца ў дэталях. «Для ўсіх паспяховых дыктатур, — адзначае эканаміст Андрэй Мовчан, — агульным правілам з'яўляецца апора на брытанска-амерыканскую сістэму права, запрашэнне ва ўладу выпускнікоў брытанскіх і амерыканскіх ВНУ, стымуляванне атрымання заходняй адукацыі элітай. Можна казаць і шырэй: усе больш-менш паспяховыя дыктатуры мелі свайго роду доўгатэрміновы кантракт з умоўным Захадам, які ўключаў у сябе маштабныя інвестыцыі, адкрытыя рынкі для заходніх карпарацый, двухбаковыя гандлёвыя прэферэнцыі і іншае».

Гэтым шляхам, дарэчы, спрабуе ісці Казахстан. Калі з 1994 па 2004 гады па адной толькі прэзідэнцкай праграме «Балашак» за мяжой навучыліся 785 чалавек, то, пачынаючы з 2005 года, іх колькасць перавысіла 3000.

Але ў Кірыла Рудога свой погляд на эканамічны рывок. У яго аснове ляжыць «грамадская засяроджанасць на вырашэнні канкрэтнай эканамічнай задачы», г. зн. мабілізацыя ва ўмовах аднадумства.



# Майскаму рэферэндуму 1995 года — 20 гадоў

Леанід ЛЫЧ, прафесар
Мікола САВІЦКІ, прафесар

**14 мая 1995 года па ініцыятыве ўладаў быў праведзены рэферэндум, на падставе вынікаў якога статус другой дзяржаўнай мовы атрымала ў нас і руская мова.**


Леанід Лыч


Мікола Савіцкі

Да гэтага яна фактычна панавала ў нас, і рэальны статус яе быў намнога вышэйшы, чым беларускай мовы, якая па Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года з'яўлялася адзінай дзяржаўнай.

Рэферэндум, як планавалі ўлады, дазволіў ім зрабіць рускую мову дзяржаўнай і юрыдычна. Па розных прычынах, такога ў моўным заканадаўстве пакуль не назіраецца ні ў адной са створаных на постсавецкай прасторы дзяржаў, нягледзячы на ўсе старанні Масквы, асабліва ў дачыненні да Украіны.

Трэба аддаць належнае палітычнаму кіраўніцтву Рэспублікі Беларусь: яно зрабіла ўсё, што неабходна было, каб толькі руская мова заняла панавальнае становішча ў абслугоўванні ўсіх сфераў дзейнасці чалавека.

Паслярэферэндумнае дваццацігоддзе для рускай мовы сталася па-сапраўднаму залатым. За такі прамежак часу для павышэння сацыяльнай ролі рускай мовы ў нашым краі не маглі столькі зрабіць ні царская, ні савецкая ўлады. Праўда, у гэтым трыумфальным шэсці рускай мовы былі і ёсць істотныя мінусы: любое ўмацаванне яе пазіцый у грамадскім ужытку забяспечвалася за кошт свядомага, мэтанакіраванага недапушчэння сюды беларускай мовы, у выніку чаго на сваёй этнічнай, гістарычнай тэрыторыі яна зараз выконвае празмерна мізэрны ў параўнанні з рускай мовай аб'ём сацыяльных функцый.

Калі народ вялі на рэферэндум, улады абяцалі яму забяспечыць поўны парытэт у выкарыстанні дзвюх дзяржаўных моваў у афіцыйным жыцці. З гэтым нічога не атрымалася: у выніку чаго беларуская мова ледзь не цалкам перастала служыць і спрадвечным сродкам зносін паміж самімі людзьмі, што рэальна пагражае ёй поўнай стратай, беззваротным знікненнем. Гэта не ў інтарэсах не толькі Бацькаўшчыны, але і ўсяго цывілізаванага свету, бо збедніць яго культурна-моўную разнастайнасць.

Не дапусціць такой, больш чым нацыянальнай, катастрофы — святы абавязак і гаранта Канстытуцыі РБ, і дзяржавы, і народа. Усім нам неабходна зрабіць чарговае дваццацігоддзе па-сапраўднаму трыумфальным для беларускай мовы, не спыняючыся нават перад свядомым уразаннем сацыяльных функцый рускай мовы, бо іншага варыянту надзяліць імі беларускую мову ў нас проста няма, не існуе ў самой прыродзе.

Вельмі пажадана, каб з нагоды дваццацігоддзя майскага рэферэндуму ў першую чаргу прэзідэнт краіны, падначалены яму дзяржаўны чыноўніцкі апарат, а таксама само грамадства знайшлі час і жаданне глыбока прааналізаваць надзвычай няпростую моўную праблему і неадкладна, пакуль яшчэ не позна, пастараліся адшукаць надзейныя шляхі яе вырашэння.


Суббота, 13 мая 1995 года

Президент просит народ зачеркнуть слово «Супрацъ»

Каждый, право, имеет право... Вот пусть и выскажется!

1. Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай? за — супраць

2. Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь? за — супраць

3. Ці падтрымліваеце Вы дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй? за — супраць

4. Ці згодны Вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі? за — супраць

**Перад рэферэндумам улады абяцалі забяспечыць поўны парытэт у выкарыстанні дзвюх дзяржаўных моваў у афіцыйным жыцці**

Маем цвёрдае перакананне, што сёння ў ідэалагічнага апарату прэзідэнцкай вертыкалі няма больш надзённага, актуальнага і ў той жа час ганаровага абавязку, як паказаць грамадству, што за 20 гадоў пасля правядзення рэферэндуму атрымалі ад яго беларуская мова, нацыянальна-культурнае Адраджэнне ўвогуле.

Будзем бясконца рады, калі сваёй публікацыяй нам удалося абудзіць занепакоенасць палітыкаў усіх рангаў, інтэлектуальныя эліты і грамадзян Беларусі трагічным лёсам свайго роднага беларускага слова, паспрыяць іх жаданню ўзяць непасрэдны ўдзел у выратаванні ад рэальнай пагібелі гэтага непараўнальнага ні з чым духоўнага багацця нашай Бацькаўшчыны — роднай беларускай мовы.

# Ці трэба ісці на выбары?

Вячаслаў ГЕРАСІМЕНКА, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання

**Напрыканцы восені ў Беларусі павінны адбыцца прэзідэнцкія выбары. Але на якіх падставах яны пройдуць? Ці ўсе змогуць удзельнічаць у выбарах?**

Над гэтым я задумаўся, калі чытаў артыкула Міхаіла Пастухова «Почему я не могу быть президентом в своей стране?». І на самай справе, чаму заслужаны чалавек, які пражыў 40 гадоў у Беларусі, не можа балатавацца на вышэйшую пасаду ў нашай краіне па той толькі прычыне, што нарадзіўся ён не ў Беларусі?

Пасля распаду СССР, па закону аб грамадзянстве, у 1991 годзе мы ўсе атрымалі грамадзянства Беларусі, незалежна ад нараджэння. Аднак некаму спатрэбілася дадаць у папраўкі да Канстытуцыі, што прэзідэнтам можа быць толькі «грамадзянін па нараджэнні». Гэта пэўная дыскрымінацыя ў адносінах да канкурэнтаў у прэзідэнцкай кампаніі. З гэтай нагоды я звярнуўся ў Канстытуцыйны суд, каб той выправіў недарэчнасць. Але безвынікова.

Паколькі змены ў Канстытуцыю ў лістападзе 1996 года былі прыняты па ініцыятыве А.Г. Лукашэнкі, то я звярнуўся і да яго асабіста. Адказ атрымаў за подпісам С.І. Буко. У ім сцвярджаецца, што «змена прадугледжанага Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь парадку выбрання кандыдата на вышэйшую дзяржаўную пасаду не патрабуецца». Далей дадаецца, што «...з улікам асаблівага статуса і высокай ролі пасады... прадугледжваецца шэраг умоў, якім павінен адпавядаць


КАНСТЫТУЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прынята на трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання 15 сакавіка 1994 года

МІНСК «ПОЛЫМЯ»

кандыдат». У лісце таксама нагадваецца, што ёсць краіны, дзе на пасаду прэзідэнта абіраецца толькі грамадзянін па нараджэнні, напрыклад, у ЗША.

Але я жыву ў Беларусі і хачу разабрацца ў нашай сітуацыі. Яшчэ раз нагадваю, што ў 1991 годзе ўсе мы былі аднолькавымі грамадзянамі. Потым нас незразумела чаму падзялілі на простых грамадзян і грамадзян па нараджэнні. Першых пазбавілі права быць прэзідэнтам у сваёй краіне. Ці можна прызнаць такую рэчаіснасць прымальнай?

Як грамадзянін і як дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання лічу, што рэферэндум 1996 года быў незаконным. У гэтай сувязі нагадаю, што калі пад прымусам А.Г. Лукашэнкі быў прызначаны рэферэндум, старшыня Вярхоўнага Савета С.Г. Шарэцкі звярнуўся ў Канстытуцыйны суд з прапановай праверыць канстытуцыйнасць пастановы аб прызначэнні рэферэндуму. Суд вырашыў, што галасаванне аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю можа насіць толькі рэкамендацыйны характар. Гэта рашэнне суда было ўлічана Вярхоўным Саветам у сваёй пастанове. Спасылка на гэта была зроблена і ў бюлетэні для галасавання. Здавалася б, што два вышэйшых органы ўлады прынялі дакументы, і ніхто не можа іх адмяніць. Тым не менш Лукашэнка даў каманду органам кіравання не выконваць рашэнне Канстытуцыйнага суда.

Яшчэ адзін красамоўны факт. Дэпутат Віктар Ганчар быў абраны Вярхоўным Саветам старшынёй Цэнтрвыбаркама. Ён павінен быў арганізаваць правядзенне таго рэферэндуму і агучыць яго вынікі. Але калі пабачыў, як улады мабілізуюць людзей на датэрміновае галасаванне, то на прэс-канферэнцыі для журналістаў ён сказаў, што не падпіша выніковы дакумент. Тады Лукашэнка адхіліў Ганчара ад пасады і прызначыў на яго месца Лідзію Ярмошыну.

Так гэта было, і я — адзін са сведкаў мноства правапарушэнняў, якія былі здзейснены ў Мінску і на маёй Петрыкаўшчыне. І магу зробіць выснову: рэферэндум 1996 года — гэта вялікі падман народа. Таму нельга прызнаваць ніякія папраўкі ў Канстытуцыю 1994 года.

**І ўсё ж на выбары патрэбна ісці. Што можа здарыцца? А тое, што за Лукашэнку прагаласуе менш за палову выбаршчыкаў. Народ адмовіць яму ў даверы. Нават калі выбаршчыкаў «пагоняць» на ўчасткі, лічба будзе менш за 50%.**

Менавіта з такога пункту гледжання трэба паглядзець на будучыя прэзідэнцкія выбары. Безумоўна, у іх не можа прымаць удзел спадар А.Г. Лукашэнка, які даўно вычарпаў ліміт сваёй улады і павінен сысці ў адстаўку. У нас ёсць прыстойныя асобы, якія з усёй адказнасцю могуць кіраваць дзяржавай. Сярод іх — прафесар права, былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў. Але ён — не «грамадзянін па нараджэнні», хоць і ўвайшоў у наша асяроддзе, вывучыў нашу мову, паважае нашы гістарычныя сімвалы, культуру і традыцыі. Ён даказаў сваю вернасць Канстытуцыі і беларускаму народу.

Што яшчэ прываблівае ў кандыдатуры М. Пастухова? Ён прапануе як мага хутчэй адмовіцца ад пасады прэзідэнта і зрабіць Беларусь самай дэмакратычнай парламенцкай рэспублікай. Функцыі кіраўніка дзяржавы будзе выконваць старшыня парламенту.

Вядома, у сучасным становішчы прапаноўваць кандыдатуру Міхаіла Пастухова няма сэнсу. Дзеля гэтага трэба зрабіць немагчымае — унесці папраўкі ў Канстытуцыю. Дакладней, вярнуцца да Канстытуцыі 1994 года, па якой усе грамадзяне Беларусі мелі права быць прэзідэнтамі.

І ўсё ж на выбары патрэбна ісці. Што можа здарыцца? А тое, што за Лукашэнку прагаласуе менш за палову выбаршчыкаў. Гэта мае прадказанні. Сцвярджаю, што на будучых выбарах народ адмовіць у даверы А. Лукашэнку. Нават у тым выпадку, калі выбаршчыкаў «пагоняць» на ўчасткі, лічба будзе меншай за 50%. Так што трэба сачыць за ходам волевыяўлення і падлікам галасоў. У гэтым — сакрэт і «ахілесава пята» Аляксандра Лукашэнкі.

TV

## 24 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.05** Меладрама «Квіток на дваіх».
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).



**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Меладрама «Багатая Маша».
**17.15** Eurovision. Вынікі тыдня.
**17.35** Камедыя «Неверагодныя прыгоды Аліны».
**20.00** Галоўны эфір.
**21.20** Навіны надвор'я.
**22.15** Дыялогі аб цывілізацыі.
**22.45** Меладрама «Мама, я жанюся!».

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Фільм «Кур'ер».
**11.00** «Брэйн-рынг».
**12.10** Горка!
**13.00** Фільм «Бурштынавы пакой».
**14.00** Шматсерыйны фільм «Ой, ма-мач-кі!».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Тэорыя змовы».
**17.15** Цюцелька ў цюцельку.
**20.00** Контуры.
**21.05** Вызваленая Еўропа.
**22.00** Фільм «Сэрцаед».
**23.50** Фільм «Дзень, калі зямля спынілася».

### СТВ

**06.00** Серыял «Студэнты International».
**07.15** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.35** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.00** Фільм «Вяртанне Супермэна».



**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Серыял «Салдаты».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Серыял «Next-2».
**15.25** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Ваенная таямніца «.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Прышэльцы-2». Мастацкі фільм.
**22.30** Зорны рынг.
**23.20** «Масква. Дзень і ноч».
**00.20** Серыял «Next-2».

### Беларусь 2

**07.05** Мультсерыял.
**07.55** Серыял «Шчаслівыя разам».
**09.45** Турыст.
**10.30** Хочу в тэлевізар!
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Fitnews.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** Кітай: інструкцыя па вывучэнні.
**12.35** Я хачу гэта ўбачыць!
**13.05** Зразумець і абясшкодзіць.
**13.40** Серыял «Мая цудоўная няня».
**15.40** Баявік. «Солт».
**17.30** Comedy Woman.
**18.35** Ікра.
**19.15** Суперлато.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Футбол.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.40** Серыял «Шчаслівыя разам».
**00.10** Камедыя «Не жартуйце з Зоханам!».

### Беларусь 3

**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Размовы пра духоўнае».
**08.20** «Культурныя коды». Дакументальны фільм, прысвечаны ўзнікненню славянскага пісьменства.
**08.45** «Па сямейных абставінах». Камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1977 г.).
**11.00** «Подых струн». Музычная праграмма. Госць: Аляксандр Апановіч.
**11.35** «Размаўляем па-беларуску».
**11.45** «Наперад у мінулае».
**12.10** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.05** Калейдаскоп.
**13.15** «Размовы пра духоўнае».
**13.25** «Музеі Беларусі». Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь. Часткі 1-я і 2-я.
**14.15** «Размаўляем па-беларуску».
**14.20** «Пётр Конюх». Жыццё і творчасць беларускага спевака.
**14.50** «Зімовы вечар у Гаграх». Музычная камедыя (СССР, 1985 г.).
**16.15** «Свінг белых начэй». Гала-канцэрт Пецярбургскага фестывалю джазу.
**17.15** Калейдаскоп.
**17.25** «Размовы пра духоўнае».
**17.35** «Лёс чалавека». Ваенная драма (СССР, 1959 г.).
**19.10** «Яраслаўна, каралева Францыі». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1978 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**21.55** Канцэрт Макса Пакроўскага і групы «Ногу свело».
**23.20** «Культпрасвет».
**00.00** «Гарыкі і чалавекі». Жыццё і творчасць Ігара Губермана. Фільм другі. 1-я і 2-я, заключныя серыі.
**00.50** Калейдаскоп.
**01.00** «Размовы пра духоўнае».

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Віцебск - Дынама.
**09.45** Валейбол. Адборачны матч ЧЕ-2015. Плэй-оф. Жанчыны. Першы матч. Украіна - Беларусь.
**11.50** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**13.55** Спартыўная гімнастыка.
**16.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**16.55** Футбол. Кубак Беларусі. Фінал. БАТЭ - Шахцёр.
**21.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Матч апошняга тура.
**22.55** Спартыўная гімнастыка.
**01.55** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.50** Казкі для дзетак.
**08.25** «Людзі і лялькі», дак. фільм.
**08.55** «Дзеці ксяндза Шаплевіча», дак. фільм.
**09.25** Беларусы ў Польшчы.
**09.40** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Навумчык і Юрась Беленькі: Рэферэндум 1995 года: ч. 2.
**10.15** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.05** Казкі для дзетак.
**11.40** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял.
**12.30** Мова нанова: «Жаночыя дробязі».
**12.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.20** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**14.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.40** «Мамы, дзеці і закон», дак. фільм.
**15.35** «Як усе», меладрама.
**17.05** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 10. «З Паўднёвай Карэі ў Токіа».
**18.00** Людскія справы.
**18.35** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): «Бітва на рацэ Ула».
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** «Вандруючы ўздоўж Вялікага муру», дак. фільм, 2011 г., Германія.
**21.20** Кінаклуб: «Кавярня Любові».
**21.35** «Кавярня Любові», маст. фільм, 2011 г., Францыя.
**00.00** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**00.50** «Мамы, дзеці і закон», дак. фільм.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюдджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ______
Всего ______
Кассир



# Еменскі хаос

Алег НОВІКАЎ

**У Емене назіраецца маштабны палітычны крызіс, удзельнікам якога акрамя шэрагу мясцовых партыяй з'яўляецца цяпер яшчэ і вайсковая кааліцыя арабскіх дзяржаў, якую, у сваю чаргу, падтрымлівае Вашынгтон. Што стаіць за канфліктам, і якія яго перспектывы? Пра гэта журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з казахскім арабістам і палітолагам Сяргеем Русташыным.**

***— Фармальна, апошні віток эскалацыі канфлікту звязаны са студзеньскім дзяржаўным пераваротам, у выніку якога легітымны прэзідэнт збег са сталіцы ў лаяльны яму Адэн. Прадстаўнікі арабскай вайсковай кааліцыі маюць намер аднавіць статус-кво і адначасова лакалізаваць паўстанне хусітаў, якія арганізавалі путч. Аднак да канца сутнасць падзей застаецца не зразумелай. Гледзячы на рэпартажы з Емену, складаецца ўражанне, што людзі там проста хаатычна забіваюць адзін аднаго без прычын.***

— Парадаксальна, але пэўная праўда ў гэтых словах ёсць. Нам звонку здаецца, што мы назіраем нейкі апагей канфлікту, яго кульмінацыю. Аднак, калі мы паглядзім гісторыю, то ўбачым — вайна ў Емене ніколі, па-сутнасці, не спынялася, пачынаючы прыкладна з 1960-х гадоў. На поўначы ўвесь час ішла грамадзянская вайна. На поўдні яна ўспыхнула пасля атрымання незалежнасці ў 1967-м. У 1999 годзе поўнач і поўдзень краіны аб'ядналіся, і праціўнікі аб'яднання адкрылі яшчэ адзін фронт. Таму па вастрыні і напалу цяперашняя ўспышка аналагічная абвастрэнню сітуацыі ў 2004 года або падзеям у 1980-я. Папросту зараз у праціўнікаў больш моцная лятальная зброя, а мы маем лепшае інфармацыйнае пакрыццё падзей. Еменскі канфлікт носіць унутраны характар, і шмат яго дэталяў і аспектаў нам папросту не вядомыя.

***— Чаму ў такім выпадку Захад і арабскія краіны вырашылі ўмяшацца ва ўнутраныя разборкі Емена?***

— Цяперашні канфлікт унутры краіны з самага пачатку характарызуецца больш шырокай прысутнасцю вонкавага фактару. Аднак у гэтым быў прынцып Арабскай вясны, якая выклікала эфект даміно: дэстабілізацыя ў адной краіне адразу станавілася выклікам для суседніх рэжымаў. Галоўны выклік для суседзяў Емена — гэта пагроза прыходу да ўлады выразна праіранскай партыі хусітаў. Ёсць шмат інфармацыі, што Тэгеран дасылае канвоі са зброяй для дапамогі хусітам. Прынамсі, усе прызнаюць, што яны маюць вельмі перадавую зброю. Варыянт перамогі хусітаў выклікае трывогу ў Вашынгтоне і Эль-Рыядзе.

Гэта, дарэчы, агульная тэндэнцыя. Апошнім часам, напрыклад, мы бачылі, як ЗША паслядоўна ціснулі на іракскі ўрад, прымушаючы Багдад адмовіцца ад іранскай вайсковай дапамогі для барацьбы з ісламскай дзяржавай. Падчас нядаўняга красавіцкага візіту іракскага прэм'ера Хайдэра аль-Абадзі ў Вашынгтон яму абяцалі крэдыт у 800 мільёнаў долараў за тое, што ён скароціць колькасць іранскіх вайскоўцаў у Іраку.

***— Што ўяўляе сабой клан хусітаў, з якім змагаюцца саюзнікі? Гэта проста племя ці нейкая вайскова-палітычная арганізацыя з канкрэтнай праграмай?***

— Натуральна, змагацца са зброяй у руках усе чальцы племені, якое складае трэцюю частку краіны, фізічна не здольныя. На перадавой знаходзяцца сябры арганізацыі «Ансар Алах» («Памочнікі Бога»). Групоўка нарадзілася як тэалагічны гурток на пачатку 1990-х гадоў. У 2004-м «Ансар Алах» палітызаваўся і ўзначаліў рух за большую рэгіянальную аўтаномію хусітаў, што з часам перайшло ў адкрытыя вайсковыя дзеянні. Грамадзянская вайна скончылася падпісаннем пагаднення аб спыненні агню ў 2010 годзе, аднак у 2014-м паўстанне пачалося зноў.

Паколькі папярэдні палітычны рэжым быў вельмі карумпаваны, хусітам удалося дастаткова лёгка ўзяць кантроль над шэрагам ключавых пунктаў на поўначы Емену. 20 студзеня гэтага года хусіты захапілі ўвесь комплекс спецслужбаў і рэзідэнцыю прэзідэнта ў сталіцы Сана. 22 студзеня прэзідэнт Хадзі падаў прашэнне аб адстаўцы. Згодна з канстытуцыйнай дэкларацыяй, быў сфармаваны і ўзяў усю ўладу ў краіне так званы «Рэвалюцыйны савет», які ў перспектыве абяцае правесці вялікі ўстаноўчы сход. Па ідэалогіі «Памочнікі Бога» блізкія да іншых праіранскіх рухаў, накшталт ліванскага «Хезбалах». Праўда, хусіты прытрымліваюцца зейдзізму (адзін з накірункаў у памяркоўным шыізме).

***— Акрамя хусітаў, войскаў кааліцыі арабскіх краін у Емене таксама дзейнічае «Аль-Каіда». Мы бачылі, як у Сірыі былі спробы выкарыстаць ісламістаў у вайне з Асадам. Ці можа паўтарыцца ў Емене сірыйскі сцэнар?***

— Ісламскі блок у Емене вельмі стракаты. Гэта цэлая кагорта груповак, напрыклад, рух «Аль-Іслах», канфедэрацыі некалькі плямёнаў. І, нарэшце, непасрэдна «Аль-Каіда». Пакуль найбольш папулярнай партыяй ісламістаў з'яўляецца «Аль-Іслах», якая чымсьці нагадвае рух «Браты-мусульмане», і адпаведна, арыентуецца на палітычныя метады барацьбы за ўладу. Аднак фактар «Аль-Каіды» трэба ўлічваць, асабліва на поўдні, дзе вельмі слаба развітая палітычная культура. Калі на поўначы незалежная дзяржава існавала з 1918 года, і інстытуты грамадства тут развітыя, то поўдзень выйшаў з-пад брытанскага мандата толькі ў 1967 годзе, і тут большую ролю дасюль адыгрывае традыцыя.

***— Наколькі падзеі ў Емене могуць адбіцца на краінах СНД? Напрыклад, мы ведаем, што Сірыя стала своеасаблівай школай для экстрэмістаў з Сярэдняй Азіі.***

— Мяркую, з-за геаграфічных дыстанцый дабрацца да Емену з таго ж Казахстану будзе цяжка. Тут хутчэй будзе выяўляцца эканамічная ўзаемасувязь. Супрацьстаянне ў Емене, куды ўцягнулася Саудаўская Аравія, аказвае ўплыў на нафтавую кан'юнктуру, хаця доля Емена ў аб'ёме сусветнай нафтаздабычы мінімальная. Магчымы паток эмігрантаў, што прывядзе да ўсплёску антыэміграцыйных настрояў у Еўропе. Але падзецца людзям сапраўды няма куды — на большай частцы краіны не працуе ніводная служба, назіраецца дэфіцыт прадуктаў.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Візіт у Мінск старшыні КНР Сі Цзіньпіна гарантуе Беларусі мільярдны доларавы крэдыт «на развіццё» і фінансаванне праектаў з удзелам кітайскага боку. Пекін замацоўваецца на пляцоўцы, якая абяцае служыць сувязным звяном паміж Еўразіяй і Еўрасаюзам. Акрам таго, пакет беларуска-кітайскіх крэдытных пагадненняў, што падпісаны ў Мінску, абяцае Лукашэнку так неабходную напярэдадні восеньскіх прэзідэнцкіх выбараў фінансавую падтрымку.

**«BBC» (Вялікабрытанія)**

Крэмль, падобна, не чакаў, што прэзідэнты шэрагу постсавецкіх краін адкрыта асудзяць спробу Масквы «прыватызаваць» перамогу ў Другой сусветнай вайне, Расія і Беларусь, безумоўна, да гэтага часу саюзнікі. Нават з улікам таго, што Аляксандр Лукашэнка не прызнаў, напрыклад, дэкларацыю пра тое, што Крым ёсць адным з суб'ектаў Расійскай Федэрацыі. Аднак большасць беларусаў лічаць, што іх краіна больш за ўсіх пацярпела ў Другой сусветнай вайне. І нават калі б Лукашэнка хацеў, ён не мог бы на гэта заплюшчыць вочы. Зрэшты, ён і не збіраўся спрачацца з уласным народам з гэтай нагоды. Перад беларускім лідарам, падобна, якраз стаяла задача паказаць усім сваю незалежнасць ад Масквы.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Паўгода засталося да дня выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Для Расіі іх вынік вельмі важны, бо гаворка ідзе пра бліжэйшага палітычнага саюзніка на заходнім фарпосце Мытнага саюза. Апазіцыя пакуль не змагла дамовіцца аб адзіным кандыдаце, а гэта значыць, што на цяперашні момант перавыбранню Аляксандра Лукашэнкі, які займае прэзідэнцкую пасаду ўжо звыш 20 гадоў, нічога не пагражае. Мабыць, для Крамля такі зыход — найменшае зло з усіх магчымых.

**«Наша версия» (Расія)**

Пра магутнасць палітыка кажуць не танкі (тым больш 70-х гадоў), а тое, колькі ў яго саюзнікаў. І тое, што на самае галоўнае свята не прыехаў нават сустаршыня саюзнай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка — красамоўны і смачны плявок, які заўважылі ва ўсім свеце. ...Нават Лукашэнка выцер ногі і аб гэту дзяржаву і аб яе лідара. Атрымліваецца, і саюзная дзяржава, і Еўразійскі саюз — усё гэта фікцыя.

**«Главком» (Украіна)**

У адказ на крызіс беларускія ўлады гатовыя прыняць адэкватныя меры — абвясціў Лукашэнка, і пералічыў дзесяць напрамкаў эканамічнай палітыкі на бліжэйшую перспектыву. У прыватнасці, прэзідэнт даручыў ураду падзяліць функцыі дзяржавы як уласніка і рэгулятара, на чым усе гады яго кіравання настойваюць як мясцовыя незалежныя эксперты, так і міжнародныя. На сённяшні дзень адсутнасць такога падзелу прыводзіць да таго, што дзяржорганы дэ-факта не займаюцца фармаваннем спрыяльнага асяроддзя для развіцця тых ці іншых галін і напрамкаў, а толькі лабіруюць інтарэсы падведамных ім дзяржаўных прадпрыемстваў. Вынікам такога падыходу становіцца неэфектыўнае выкарыстанне дзяржаўных сродкаў, бо падтрымку атрымліваюць не самыя прыбытковыя праекты, а «свае». Карэкціроўка падыходаў да размеркавання дзяржсродкаў у бок прыярытэтнасці самых хутка акупальных з іх — таксама адзін з пунктаў анансаваных Лукашэнкам эканамічных зменаў. Прэзідэнт заявіў, што нават МАЗу, які з'яўляецца для Беларусі іміджавым прадпрыемствам і яе тварам, проста так грошай не дасць.

**«Независимая газета» (Расія)**

Успрымаць усур'ёз словы Лукашэнкі пра «рускі свет» не варта. Тым больш, што ў пасланні народу і парламенту Аляксандр Рыгоравіч, як заўсёды, зрабіў дзве ўзаемавыключальныя заявы: «мы — рускі свет» і «рускі свет — гэта не пра нас». Другая заява, мабыць, значна бліжэй да ісціны: «рускі свет» — гэта дакладна не пра Лукашэнку. А вось што дакладна пра яго, дык гэта словы дыктатара польскай дзяржавы Юзэфа Пілсудскага, сказаныя пра аднаго з куміраў беларускіх нацыяналістаў — Станіслава Булак-Балаховіча: «Гэта чалавек, які сёння рускі, заўтра — паляк, паслязаўтра — беларус, яшчэ праз дзень — негр».

**«REGNUM» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Ці маюць геі права вырабляць кашулькі?

Бостанскі суд пачаў слуханне незвычайнай справы супраць уладальніка тэкстыльнай кампаніі «Lexington», які адмовіў мясцовым геям у вытворчасці кашулек з рэкламай нейкага гей-прайда. На думку апошніх, гэта з'яўляецца адкрытым актам дыскрымінацыі. У доказ сваёй пазіцыі прадстаўнікі сексуальнай меншасці спасылаюцца на рэзалюцыі шэрагу праваабарончых арганізацый штату, якія таксама пабачылі ў паводзінах дырэкцыі «Lexington» праявы ксенафобіі. Адвакаты «Lexington» у сваю чаргу кажуць, што апошняе слова ў дадзенай сітуацыі застаецца за прадпрымальнікамі, а не за спажыўцом. Па іх словах, яны рэгулярна адмаўляюць у друку кашулек мясцовым стрыптыз-клубам, аднак іх уладальнікі не разглядаюць гэта як замах на іх грамадзянскія свабоды і правы. Працэс можа мець самыя глабальныя наступствы з улікам таго, што ў ЗША дзейнічае прэцэдэнтнае права.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Зоран Шкірак падаў у адстаўку

Падаў у адстаўку з пасады часовага кіраўніка ўкраінскага Міністэрства надзвычайнага становішча (МНС) Зоран Шкірак — адна з зорак Майдану, якога прызначылі кіраваць дэпартаментам пасля арышту ў прамым эфіры за хабары папярэдніх адміністратараў. Зоран вельмі рашуча пачаў кіраваць ведамствам, аднак яго кар'еру падарваў скандал з эвакуацыяй украінскіх турыстаў з Непалу. Чамусьці часова выконваючы абавязкі міністра вырашыў выратаваць землякоў асабіста. 28 красавіка ён вылецеў на борце самалёта Мінабароны ў Катманду, дзе і пачаліся прыгоды. Спачатку з-за паломкі самалёта давялося дасылаць новую дэталь з Кіева, аднак з-за памылкі дэталь даставілі не тую. Тым часам высветлілася, што сярод пасажыраў самалёта была грамадзянская жонка Шкірака. У выніку экспедыцыя абышлася бюджэту ў амаль паўмільёна долараў, а адстаўкі Зорана Гімалайскага (новая мянушка Шкірака) пачала патрабаваць нават майданаўская грамадскасць. 11 мая Шкірак напісаў «па ўласным жаданні», заявіўшы, што яго «місія выкананая». Хутчэй за ўсё, гэта толькі пачатак гучных адставак у кабінеце Яцанюка. Пасля таго, як украінцам сталі прыходзіць жыроўкі з новымі тарыфамі за ЖКГ (кошты на камуналку ўзняліся з 1 красавіка), Яцанюк вельмі дэманізаваны ва ўкраінскім соцыуме.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Немаўля дапамагло кансерватарам выйграць на выбарах



Сваім поспехам на парламенцкіх выбарах у Вялікабрытаніі кансерватары абавязаныя Шарлоце — дачцэ прынца Уільямса і Кэйт, якая нарадзілася літаральна за пару дзён да галасавання. З такой незвычайнай ідэяй выступіла французскае выданне «Liberation». Паводле выдання, выявы шчаслівых бацькоў і немаўля, якія тыражаваліся ўсе СМІ, справавалі прыліў манархісцкіх сентыментаў сярод брытанцаў. Краіна перажыла рэнесанс любві да інстытуту манархіі, абаронцам якога з'яўляецца менавіта партыя Дэвіда Кэмерана. У дадатак маленькая Шарлота асацыіруецца з сямейнымі каштоўнасцямі — адным з улюбёных пунктаў праграмы торы. Брытанскія эксперты пішуць, што фактар Шарлоты нельга ігнараваць, аднак больш паўплывала на правал лейбарысцкай апазіцыі слабая харызма яе лідара Эда Мілібэнда.

**Паводле французскай прэсы**

### ВЕНЕСУЭЛА. Як атрымаць кватэру

Венесуэльцы, якія маюць жыллёвыя праблемы, падаецца, знайшлі спосаб атрымаць жыллё. Вынаходніцай рэцэпту стала Марлені Аліва, звычайная працоўная, якая вымушана жыць у барыас — бедных кварталах з будынкамі, якія не адпавядаюць ніякім нормам. Марлені напісала пра сваю праблему на манга, прыпісаўшы таксама нумар тэлефону. Пасля гэтага яна стала чакаць, калі побач праедзе аўтобус з прэзідэнтам Мадурам, які зараз робіць нацыянальны тур у абарону сваёй чарговай новай праграмы. Як толькі аўтобус з'явіўся, Марлені кінула ў яго вакно той самы манга. Садавіна трапіла ў галаву гаранта, аднак той загадаў ахове не шукаць «тэрарыста». Наадварот, на наступны дзень, выступаючы на тэлебачанні, Мадура нечакана заявіў: «Марлені, я патрабаваў вырашыць тваю праблему». Кідальніцы манга сапраўды далі бясплатна жыллё. Цяпер усе чакаюць выбуху моды на тое, каб кідацца ў Мадура манга і іншай садавіной з тэкстамі пра свае праблемы. Патэнцыйных кідальнікаў хапае: 60 працэнтаў венесуэльцаў дасюль жывуць у раёнах падобных на барыас.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# Што рабіць з Шатландыяй?

Алег НОВІКАЎ

**Перамогу кансерватараў на парламенцкіх выбарах азмрочвае трыумф нацыяналістаў Шатландыі. Шатландскае пытанне — адно з самых складаных у павестцы дня новага кабінета Дэвіда Кэмерана.**




Пакінуць саюз або застацца ў саюзе. Вось так трошкі дыхатамічна гучаць асобныя пункты праграмы кансерватараў падчас апошняй выбарчай кампаніі. У першым выпадку — пакінуць Еўрапейскі саюз, які торы даўно крытыкуюць за бюракратыю і непразрыстасць прыняцця рашэнняў. Абяцанак застацца ў ЕС тычыцца праблемы Шатландыі, з якой Англія, паводле кансерватараў, павінна працягнуць унію 1709 года — канстытуцыйны базіс дзяржаўнай фармацыі пад назвай Аб'яднанае Каралеўства.

Пытанне з сяброўствам Вялікабрытаніі ў ЕС, быццам, будзе вырашана ў наступным годзе, калі павінен адбыцца абяцаны старым-новым прэм'ерам плебісцыт. А вось што рабіць з Шатландыяй, нікому не зразумела.

Асабліва пасля таго, як мясцовыя нацыяналісты з Шатландскай нацыянальнай партыі (SNP) па выніках майскіх выбараў атрымалі 53 з 56 мандатаў (шатландская квота ў брытанскім парламенце). Самае цікавае, што Нікола Старджэн — новы правадыр SNP — падчас выбарчай гонкі пастаянна казала: «Выбары — не рэферэндум пра незалежнасць», а поспех SNP не будзе аўтаматычна значыць абвяшчэння даты новага плебісцыту па пытанні незалежнасці.

Усё дарэмна. Калі меркаваць па рэпартажах з Шатландыі, тубыльцы прапускалі гэтыя тырады. Як пішуць журналісты, на мітынгах SNP дамінаваў дэвіз: «Шляху назад няма!» Тэма канстытуцыйных рэформаў не сыходзіла з вуснаў трыбунаў. Шатландцы пертвараліся ў пасіянарную масу.

Кампенсаваць электарату Старджэн адсутнасць незалежнасці мог бы так званы «падвешаны парламент», калі ніводная партыя не мае большасці. У такім выпадку за кошт сітуацыйнай падтрымкі ўрадавай партыі (планавалася, што ўрад узначаляць лейбарысты) можна было б дабіцца бонусаў для Шатландыі, і ў тым ліку прымусіць урад перагледзець непапулярную сацыяльную палітыку — канёк праграмы SNP.

Аднак электарат вырашыў інакш. У парламенце, дзе кансерватары маюць большасць, SNP будзе проста статыстам. Чымсьці сітуацыя нагадвае пачатак 1980-х гадоў, калі 50 з 56 месцаў ад Шатландыі былі

**Лондан знаходзіцца ў стане цугцвангу. Шатландцы пертварылі выбары ў маніфестацыю за незалежнасць, а англічане аддалі перавагу палітыку, які заяўляў, што ніколі не будзе прэм'ерам, у час кадэнцыі якога будзе страчана Шатландыя**

ў лейбарыстаў. Аднак, будучы партыяй меншасці, лейбарысты не змаглі заблакаваць пакет ліберальных рэформаў Маргарэт Тэтчэр. Расчараванне ў лейбарыстах дапамагло не вельмі раскручанай на той час SNP выйсці з маргіналаў. Іншымі словамі, каб захаваць рэйтынг Старджэн нічога не застаецца, як гуляцца ў крутога незалежніка і абвяшчаць новы плебісцыт. Гэта, аднак, вельмі рызыкоўна. Правал другога запар рэферэндуму пра незалежнасць Шатландыі — гэта крыж на праекце незалежнай дзяржавы.

Лондан, на першы погляд, знаходзіцца ў стане цугцвангу. У той час, як шатландцы пертварылі выбары ў маніфестацыю за незалежнасць, англічане аддалі перавагу палітыку, які заяўляў, што «ніколі не будзе прэм'ерам, у час кадэнцыі якога будзе страчана Шатландыя». Акрамя таго, партыі могуць спатрэбіцца галасы дэпутатаў-юніяністаў з Паўночнай Ірландыі, якія ўжо агучылі ўмову падтрымкі Кэмерана — стварэнне дэпартаменту па выратаванню адзінства краіны.

З іншага боку, у Кэмерана ёсць што супрацьпаставіць шавіністам-аднапрытыйцам. Гэта факт яго перамогі на майскіх выбарах, які каласальна ўзняў яго аўтарытэт. На думку шмат каго, ён можа скарыстацца момантам і пайсці на саступкі шатландцам, каб аслабіць радыкальнае крыло ўнутры SNP і забяспечыць адзінства краіны. Палітолагі заклікаюць урад скарыстацца тым, што ўнія 1709 года дэ-факта ўжо перастала дзейнічаць. Незаўважна для брытанскай публікі, яна стала звычайнай паперкай пасля таго, як лейбарысты ў 1999 годзе надалі Шатландыі аўтаномію, што супярэчыць зґаданаму вышэй дакументу.

Цяпер прэса спрачаецца, які пернік Лондан можа прапанаваць Эдынбургу. Прапануюць надаць Шатландыі фінансавую і падатковую аўтаномію, дапусціць стварэнне нейкага аналага шатландскага МЗС, даць дазвол эмісару з Эдынбурга сядзець на перамовах, якія Лондан вядзе па важных для Шатландыі тэмах, напрыклад, рыбалоўства. Частка кансерватараў таксама не супраць баварскай мадэлі, калі баварскі Сацыял-хрысціянскі саюз з'яўляецца незалежнай структурай, што фармуе з хрысціянскімі дэмакратамі адзіны спіс на выбарах у Бундэстаг.

Верагодна, сітуацыя будзе менавіта развівацца ў гэтым накірунку. На наступны дзень пасля выбараў Кэмеран паабяцаў шатландцам «самы аўтаномны ўрад, які толькі можа быць у свеце». Хаця сама Нікола Старджэн яшчэ не адрэагавала на дыскусію, прэса лічыць, што яна вымушана будзе пагадзіцца на кампраміс.

Скептыкі лічаць, што такія кансенсусы толькі адцягваюць тэрмін абвяшчэння шатландскай незалежнасці або як мінімум трансфармацыі дзяржаўнага ладу краіны да федэральнай мадэлі. Чым больш паўнамоцтваў будзе атрымліваць Эдынбург, тым больш сумна будзе дэпутатам у брытанскім парламенце. Па сутнасці, паступова ён будзе займацца чыста англійскімі пытаннямі.

Застаецца ўзгадаць адзін, на першы погляд фантастычны, аднак з юрыдычнага пункту гледжання дастаткова рэальны сцэнар. У наступным годзе на рэферэндуме па выхаду Вялікабрытаніі з Еўрасаюзу англічане могуць прагаласаваць за выхад краіны з ЕС. Іншыя вынікі могуць быць у Шатландыі, дзе пануюць праеўрапейскія настроі. У такім выпадку можа ўзнікнуць далікатная сітуацыя, калі Англія выйдзе з ЕС, а Шатландыя можа застацца ў якасці асобнага сябра як фактычна незалежная дзяржава. І ніякага рэферэндуму для гэтага не спатрэбіцца.

# Вяртанне Новай Афрыкі

Алег НОВІКАЎ

**Расавыя хваляванні ў гарадах ЗША адрадзілі інтарэс да праекту стварэння на базе шэрагу штатаў асобнай дзяржавы афраамерыканцаў.**



З імем славутага Марціна Лютэра Кінга звязаная не толькі фраза: «Я маю мару» і рух за грамадзянскія правы афраамерыканцаў. Таксама Кінг датычны да гістарычнага расколу сярод актывістаў афраамерыканскага руху. Марцін Лютэр Кінг абараняў ідэю таго, што, атрымаўшы роўныя правы з белымі, чорныя змогуць інтэгравацца ў грамадства. Адначасова ўзнік больш радыкальны фланг, які лічыў, што без сваёй дзяржаўнасці афраамерыканцы застануцца людзьмі другога гатунку.

Праўда, думка пра сваю дзяржаўнасць нарадзілася не на пустым месцы. Самае смешнае, што на дзяржаўнасць іх натхніў урад белых. У сярэдзіне XIX стагоддзя на межах некаторых штатаў узніклі буйныя камуны, сфармаваныя з беглых рабоў. Каб неяк інтэграваць гэтую масу ў прававую зону, было вырашана даць тым камунам унутраную аўтаномію. Прычым белым людзям (акрамя вайскоўцаў і ўрадавых агентаў) было забаронена нават наведваць гэтыя калоніі, якія кіраваліся паводле прынцыпаў дэмакратыі. Такія эксперыменты мелі месца ў штатах Фларыда і Місісіпі. Падчас грамадзянскай вайны адміністрацыя на акупаваных землях Поўдня часта фарміравалася з афраамерыканцаў, якія былі лаяльныя да новай улады.

Гэтая практыка падштурхнула Марціна Дэлані, аднаго з лідараў абаліцыяніцкага руху, яшчэ ў 1852 годзе выдаць кніжку «Лёс чорнага народа Злучаных Штатаў», у якой ён заклікаў да стварэння дзяржавы чарнаскурых. Цікава, што неабходнасць дзяржаўнасці ён аргументаваў спасылкай на вопыт Польшчы ў рамках Расійскай Імперыі. Тое, што палякі рэгулярна бунтавалі супраць расійскіх каланізатараў, на яго думку, сведчыла, што дзве розныя нацыі ўсё роўна не змогуць ужыцца разам. Праўда, Дэлані, як і шмат іншых лідараў афраамерыканцаў, быў прыхільнікам ідэі стварэння дзяржавы не ў ЗША, а на гістарычнай радзіме, у Афрыцы. Яшчэ ў 1822 годзе перасяленцы з ЗША купілі тут за 50 доляраў 13 тысяч квадратных кіламетраў зямлі і пачалі будаваць сваю дзяржаву — Ліберыю.

Прыкладна ў 1920-я гады перасяленне ў Афрыку стала губляць прывабнасць. Прабіў час групоўкі «Нацыя ісламу», якая заклікала чарнаскурых грамадзян ЗША ствараюць асобную нацыю. Аднак да канкрэтных крокаў будаўніцтва дзяржавы дайшло толькі напрыканцы 1960-х гадоў.

31 сакавіка 1968 года ў Дэтройце (штат Мічыган) была абвешчаная Рэспубліка Новая Афрыка (RNA) і прадстаўлены яе часовы ўрад. Прэзідэнтам самаабвешчанай дзяржавы стаў Роберт Ф. Уільямс. Гэта была культавая асоба для афраамерыканскай камуны. Будучы адвакатам, ён арганізаваў самаабарону чарнаскурых грамадзян ЗША. Але сапраўдную нацыянальную славу яму прынесла «справа аб пацалунках». Уільямс стаў ініцыятарам кампаніі за перагляд скандальнага судовага рашэння, паводле якога двое цемнаскурых хлопчыкаў былі асуджаныя да папраўчай калоніі да 21 года за тое, што іх пацалавала белая дзяўчынка.

У 1961 годзе Уільямс з жонкай пакінуў Злучаныя Штаты, пасля таго, як трапіў у федэральны вышук па абвінавачванні ў выкраданні людзей. Уільямс паспеў наведаць Кубу, В'етнам і Танзанію, каб пасля вярнуцца на радзіму і адразу стаць прэзідэнтам цэлай краіны. Дарэчы, на карце Новая Афрыка выглядала вельмі салідна. Стваральнікі Новай Афрыкі ўключылі ў яе склад тэрыторыі штатаў Фларыда, Луізіяна, Місісіпі, Алабама і яшчэ шэрагу штатаў амерыканскага Поўдня, дзе пражывае вялікі працэнт чарнаскурага насельніцтва.

**50 доляраў каштавалі перасяленцам з ЗША 13 тысяч квадратных кіламетраў зямлі ў Афрыцы**

Планы ў чальцоў адміністрацыі Уільямса былі самыя амбіцыйныя. Акрамя выхаду са складу ЗША і патрабавання месца ў ААН, сепаратысты вымагалі ад амерыканскага ўрада шматмільярдныя выплаты за шкоду і пакуты чарнаскурых ад белых рабаўладальнікаў. Пачалося фармаванне так званага Чорнага легіёна — мілітарнай структуры, на базе якой мела быць створаная армія Новай Афрыкі. Цікавымі былі эканамічныя погляды бацькоў-заснавальнікаў Новай Афрыкі. Лідары RNA прапагандавалі калектывісцкую мадэль эканомікі на прынцыпах самакіравання і ўзаемадапамогі, або, як яны гэта называлі, «афрыканскага сацыялізму».

Як не дзіўна, амерыканскія спецслужбы адразу не арыштавалі Уільяма і яго міністраў. Усё, што зрабіла тады ФБР, — пашырыла на ўрад Новай Афрыкі дзеянне сакрэтнай праграмы COINTELPRO. У рамках гэтай праграмы супрацоўнікі ФБР мелі права праслухоўваць тэлефонныя перамовы чальцоў гэтага ўраду, ажыццяўляць розныя правакацыі, распаўсюджваць пра іх дэзінфармацыю.

Аднак першыя крокі самаабвешчанага ўраду прывялі да таго, што спецслужбам давялося ўзяцца за лідараў больш шчыльна. Асабліва пасля перастрэлкі з паліцыяй падчас святкавання першай гадавіны Новай Афрыкі. І перастрэлкі ў 1971-м, калі афраамерыканскія актывісты захапілі нейкую ферму. Гэтага хапіла, каб ФБР перайшло ў адкрыты наступ на Новую Афрыку. Публічныя сходы яе прыхільнікаў заканчваліся масавым хапуном. Шэраг лідараў, у тым ліку прэзідэнт, аказаліся за кратамі. Падчас суду над Уільямсам пракурор абараняў тэзіс пра тое, што за праэктам Новай Афрыкі можа стаяць Маа Цзэдун. У выніку дзейнасць Новай Афрыкі была паралізаваная, і пра яе амаль забыліся, хаця структура захавалася. У інтэрнэце можна знайсці сайт неіснуючай дзяржавы, дарэчы, у гэтым годзе будзе абірацца яе новы прэзідэнт.

Між тым, пасля шэрагу апошніх масавых беспарадкаў на расавай глебе ў ЗША, праект Новай Афрыкі зноў вярнуўся на старонкі прэсы. Праўда, усё прызнаюць, што рэалізаваць гэты праект будзе цяжэй, чым 50 гадоў таму. Магчыма, канстатацыя таго факту, што белыя і чорныя ў ЗША прымушаны жыць разам, дапаможа распачаць дыялог.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нурсултан Назарбаеў



Прэзідэнт Казахстана, абраны ў канцы красавіка ў ходзе датэрміновых выбараў на пяты прэзідэнцкі тэрмін, прадставіў праграму рэформаў у краіне. Пазначаныя пяць галоўных кірункаў: стварэнне прафесійнага дзяржапарату і барацьба з карупцыяй, рэформа сістэмы правасуддзя, дыверсіфікацыя эканомікі за кошт маштабных інвестыцый, стварэнне новай ідэнтычнасці насельніцтва Казахстана, і, нарэшце, пераход да парламенцка-прэзідэнцкай формы кіравання. Найбольш цікавым падаваўся, безумоўна, апошні пункт, паколькі ён значыў добраахвотную адмову Елбасы ад часткі паўнамоцтваў. Праўда, сакрэт такой шчодрасці ў выніку аказаўся вельмі просты — Нурсултан сапраўды хоча аддаць частку паўнамоцтваў прэзідэнта парламенту, але не сваіх, а будучага прэзідэнта Казахстана. Што тычыцца іншых накірункаў праграмы, то, на думку большасці экспертаў, яны не новыя. Такім чынам, узнікае пытанне: навошта на самай справе былі патрэбныя датэрміновыя прэзідэнцкія выбары? З іншага боку, абывацель вельмі задаволены такім паваротам падзей. Напярэдадні выбараў хадзілі чуткі, што яны патрэбныя Назарбаеву, каб атрымаць карт-бланш на скарачэнне сацыяльных праграм.

### Ммусі Маймане



Абранне 34-гадовага паўднёва-афрыканскага палітыка новым старшынёй галоўнай апазіцыйнай партыі «Дэмакратычны альянс» стала сапраўднай сенсацыяй. Ён чарнаскуры, у той час як «Дэмакратычны альянс» мае рэпутацыю вядучай партыі, якая абараняе правы белых грамадзян Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі. Сапраўды, крок супярэчлівы, аднак у любым выпадку (гэта прызнаюць усе аглядальнікі), ён дае шанс «Дэмакратычнаму альянсу» выйсці на чарнаскурага выбаршчыка, без падтрымкі якога выйграць выбары ў краіне немагчыма. Калі меркаваць па першых прамовах новага старшыні «Дэмакратычнага альянсу», менавіта на гэта і разлічана яго стратэгія. Ён шмат казаў пра праблемы беднасці і карупцыі, якія вельмі важныя для чорных грамадзян ПАР. Між тым, некаторыя паліталагі думаюць, што чорнай скуры старшыні недастаткова, каб прыцягнуць выбаршчыкаў-афрыканцаў, для якіх «Дэмакратычны альянс» традыцыйна застаецца партыяй белых расістаў. У любым выпадку, абранне Ммусі — кепскі знак для ўрадавай партыі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс», якая мела манаполію на галасы чорнага электарату. Так ці інакш, відавочна, частка чорнай эліты будзе прыглядацца да «Дэмакратычнага альянсу» (Альянс, напрыклад, абірае брат Мандэлы). Адначасова злева ўрадавую партыю атакуе левардыкальная партыя «Барацьбіты за эканамічную свабоду», якая здолела на выбарах прайсці ў парламент.

### Кенан Эврэн



Генерал, былы турэцкі прэзідэнт, памёр 9 мая ва ўзросце 97 гадоў. Нябожчык застаўся ў памяці турак перш за ўсё як арганізатар вайсковага перавароту ў 1980 годзе, пасля якога ён два з паловай гады кіраваў краінай як дыктатар, а пасля да 1989-га — як прэзідэнт. Дыктатура была накіраваная на тое, каб спыніць рост палітычнай напружанасці, аднак у выніку тая эпоха прывяла да яшчэ большага пашырэння экстрэмізму. Дастаткова сказаць, што менавіта тады Турцыя пазнаёмілася з такой з'явай, як курдская партызанка, якая цягнецца да сёння. У выніку неабвешчанай грамадзянскай вайны было забіта каля 5 тысяч чалавек. Акрамя таго паўмільёна чалавек былі арыштаваныя, сотні забітыя ў турмах, палітычныя партыі забароненыя. У 2012 годзе судовыя органы Турцыі вырашылі падтрымаць абвінавачванні супраць Кенана Эврэна і яго паплечніка з нагоды іх ролі ў пераваросе 1980 года. У чэрвені мінулага года суд прызнаў іх вінаватымі, хаця цяперашні прэзідэнт Рэджэп Таіп Эрдаган да апошняга рабіў спробы рэабілітаваць Эврэна. Палітычнай спадчынай нябожчыка, безумоўна, з'яўляецца яго пастулат пра тое, што дзеля палітычнай стабільнасці можна заплюшчыць вочы на грамадзянскія правы. Да канца жыцця ён казаў, што не шкадуе пра пераварот 1980 года.

# Невядомае:

Арсень ЛІС

**Корпаючыся ў неспарадкаваных сваіх паперах, днямі патрапіў на даўні, 1970 года, ліст Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. І вось што ўзгадалася.**

Ліст быў з нагоды прачытання шанаваным намі літаратуразнаўцам і крытыкам майго нарыса-партрэта мастака Пётры Сергіевіча. У лісце аўтарытэтнага пісьменніка — нечакана-адметнае асабістае бачанне Сергіевіча — чалавека і творцы. Але яшчэ больш было нечакана і ўсцешна пачуць ад Уладзіміра Андрэевіча цікавы расповед пра мастака Міколу Васілеўскага.

У свае маладыя аспірантскія гады я шчасліва адкрыў для сябе цэлы духоўны мацярык падпóльскай Заходняй Беларусі даваеннага часу. Быў уражаны багаццем і разнастайнасцю беларускай віленскай перыёдыкі, кніжных выданняў ды здабыткамі выяўленчага мастацтва. З апошняга — перадусім творчасцю мастака Язэпа Драздовіча, гумарыстычна-сатырычнай графікі Язэпа Горыда, партрэтнай галерэяй беларускіх грамадскіх, асветных дзеячаў, пісьменнікаў і артыстаў, створанай Пётрам Сергіевічам. Пазнаёміўся я, натуральна, і з кніжнай графікай Міколы Васілеўскага. Яго малюнкамі былі аформлены кнігі-буквары, чытанкі таленавітага беларускага педагога-асветніка Сяргея Паўловіча «Пішы самадзейна», «Першыя зярняткі», «Zaseïki».



Уладзімір Андрэевіч Калеснік



Мастак Мікола Васілеўскі

У абставінах, калі польская адміністрацыя з палітычных мэтаў не хацела даць беларусам сваёй школы, падручнікі Паўловіча спрыялі самастойнаму, у хатніх умовах, навучанню беларускай мове, адыгрывалі этнаахоўную ролю, былі абаронай супраць паланізацыі. Малюнкі Міколы Васілеўскага, у якіх мастаком узнаўляўся працоўны быт беларуса, вобразныя рэаліі жыцця беларускай школы, за якую змагалася інтэлігенцыя, мелі актуальны сэнс, узбагачалі, так бы мовіць, відэарад навучальных кніжак Сяргея Паўловіча.

Выкананыя ў простай рэалістычнай манеры, з душой, яны не пакідалі, не пакідаюць абыякавымі гледача, чытача кніжак. Менавіта з кніг Паўловіча, з папулярнага ў 1926–1928 гадах у Заходняй Беларусі гумарыстычна-сатырычнага часопіса «Маланка», кнігі-каляндара на 1929 год у мяне склалася агульнае ўяўленне пра творчасць мастака Міколы Васілеўскага. Але не ведаў, не меў звестак пра яго жыццёвы лёс, працу пасля таго, калі ён, як і іншыя заходнебеларускія мастакі — Раман Семашкевіч, Васіль Сідаровіч ды дзясяткі тысяч моладзі, — сышлі праз зялёную граніцу ў СССР з надзеяй, што там будуецца Беларускі дом. Ліст ад Уладзіміра Калесніка (як аказалася, земляка, аднавяскоўца мастака з Сіняўскай Слабады з Навагрудчыны) даносіў жывы сімпатычны вобраз Міколы Васілеўскага, які ў 20-я гады наведваўся ў бацькаву хату з Вільні, дзе вучыўся ў адкрытай у 1919 годзе беларускай гімназіі. Мне закарцела не адкладаючы ўвесці біяграму Міколы Васілеўскага ў энцыклапедычныя выданні, якія дзякуючы старанням нашых старэйшых інтэлігентаў, літаратараў-вучоных з канца 60-х гадоў мінулага стагоддзя сталі рэальнасцю. Коштам адкрытых у бібліятэках і архівах Вільні—Вільнюса не вядомых мне раней беларускіх імёнаў, фактаў, памятак хацелася папоўніць рэестр гісторыка-культурных здабыткаў Беларусі, зрабіць іх даступнымі шырокай грамадскасці. Задума гэта патрабавала пэўнага часу. Але ручыла, што выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» пад кіраўніцтвам акадэміка Пятруся Броўкі працавала прадуктыўна цягам 70-х — 80-х гадоў ХХ стагоддзя, і нешта ўдалося паспець зрабіць. Дарэчы, адных беларускіх газет і часопісаў, выдадзеных у даваеннай Вільні, набіралася да сотні найменняў. Выпраўляўся ў камандзіроўкі часам на месяц, балазе меў разуменне сваіх памкненняў з боку дырэктара Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору акадэміка Пятра Глебкі. Фіксаваў, апісваў тыя перыёдыкі, жывыя крыніцы грамадскай думкі, культурнага жыцця 20-х — 30-х гадоў.

Стараўся паспець падаць некалькі артыкулаў у чарговы том «БелСЭ», пазней у «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі», «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі». Нешта ўдалося, хоць часам рабіць тое даводзілася хапатліва, каб паспець да здачы ў набор чарговага энцыклапедычнага тома. Даводзілася часам дапускаць пропускі імён, прозвішчаў той ці іншай персаналіі з-за нерэабілітаванасці. І такое цягнулася да перабудовачных часоў.

Накід-біяграму Міколы Васілеўскага мне ўдалося падаць у 1-м томе «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». Некалькі звестак біяграфіі мастака-земляка падказаў Уладзімір Андрэевіч Калеснік, штось даведаўся ад мастацтвазнаўца, даследчыка беларускай школы графікі Віктара Шматава, і хоць скупаватая палітра для ўзнаўлення постаці Міколы Васілеўскага ў гісторыі мастацтва, сілуэт яго ўдалося акрэсліць. З часам нехта расшукае ў да часу прыкрытых для даследчыкаў архівах паўнейшы жыццяпіс шчырага творцы беларускага выяўленчага летапісу, раскажа пра яго творчую спадчыну. Пэўна, не ўся яна прапала. Малюнкі, апублікаваныя ў кнігах, перыёдыцы, засталіся. А вось жывапіс, тыя ж пейзажы Міколы Васілеўскага, згаданыя ў лісце Калесніка, што віселі ў бацькавай хаце, невядома, ці захаваліся. Пры жыцці Уладзіміра Андрэевіча не даўмеўся спытацца, шкадую. Спадчына ж творчага чалавека, калі падумаць, не яму аднаму належыць. Як духоўным скарбам, ёй узбагачаецца народ, з якога выйшаў творца. А ў выпадку з класікамі — усё чалавецтва. А нам, не такім багатым і не такім бедным на мастакоў, чый творчы лёс быў не надта шчаслівы, сабраць спадчыну іх дзеля пакраплення духу народнага — вельмі патрэбна.

Тым часам чалавечы і творчы лёс Міколы Васілевіча склаўся фатальна.

Спадзеў атрымаць вышэйшую мастацкую адукацыю ў БССР, рэалізаваць сябе ў больш спрыяльных умовах, чым у тагачаснай Заходняй Беларусі, не апраўдаўся.

Гэта ў 1920-я гады ў савецкай, у беларускай віленскай Беларусі ішло імклівае дзяржаўнае і культурнае будаўніцтва. Паўсталі першы дзяржаўны беларускі ўніверсітэт, Інстытут беларускай культуры, у якім дзейсна развівалася беларусазнаўчая гуманітарыстыка. На дзяржаўнай аснове шырокае развіццё атрымаў нацыянальны тэатр. І, пэўна, найяскравей закрасавала беларускае мастацкае слова на літаратурнай ніве. Важным здабыткам народа стала школа, адукацыя на роднай мове, дыскрэдытаванай да рэвалюцыі. У цэлым паспяхова, хоць і не без цяжкасцяў, здзяйснялася ў рэспубліцы палітыка беларусізацыі. Усё гэта мела прыцягальную моц як у палітычным, так і ў культурніцкім плане для заходніх беларусаў, што трапілі пад уладу адроджанай Рэчы Паспалітай, яе юрысдыкцыю.

А ў 1927 годзе, калі нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі ў яго легальных формах трапіў пад забарону, жорсткае адміністратыўнае праследаванне польскіх уладаў, моладзь масава пачала сыходзіць праз мяжу на Усход. Нехта ратаваўся ад патэнцыйнага арышту дэфензівай, нехта спадзяваўся атрымаць работу, вучыцца, з чым у Польшчы было няпроста. У тым патоку за мяжу, які набываў памеры амаль біблейскага зыходу, патрапіў у Мінск сярод іншых заходнебеларускіх інтэлігентаў і Мікола Васілеўскі. Нейкі час як графік працаваў ён у газетах «Звязда», «Савецкая Беларусь» (апошняя да 1933 г. выходзіла па-беларуску). Але шчаслівa працавалася яму нядоўга.

Мастака, пэўна, не абмінула другая хваля рэпрэсій у Савецкай Беларусі супраць інтэлігенцыі, учыненая АДПУ ў 1933 годзе. Афіцыйна карнай акцыі была дадзена назва «Беларускі нацыянальны цэнтр», унутрыведамасна яна мела найменне-дадатак «Закардоннікі». Мэтава скіравана была перадусім супраць інтэлігенцыі — выхадцаў з Заходняй Беларусі. Пасля раз-



Часопіс «Маланка»




Выява з часопісу «Маланка»

# Згадкі, навеяныя лістом

грому ўрадам Пілсудскага-Мештовіча стотысячнай Беларускай сялянска-работніцкай грамады і арыштам ды зніволеннем паслоў сойму ад беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі «Змаганне» ў Мінску сабралася багата ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі, у тым ліку яго прызнаныя лідары. Некалькі год таму кіраўнікі БСР Грамады і «змаганцы» савецкімі ўладнымі органамі былі выбаўлены з польскіх турмаў. Удалося таго дамагчыся шляхам абмену іх на вязняў-палякаў савецкіх астрогаў. Папрацавалі на розных дзяржаўных, культурна-грамадскіх пасадах яны ў Савецкай Беларусі, а цяпер сталі ахвярай нядаўніх сваіх ратавальнікаў. Такое не паддавалася цвярозаму розуму. Але было рэальнасцю. У падступна сканструяваным АДПУ сцэнары аўтарытэтныя дзеячы беларускага нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі Сымон Рак-Міхайлоўскі, Ігнат Дварчанін, Язэп Гаўрылік, Павел Валошын, Пётра Мятла, Максім Бурсевіч аблыжна падаваліся як кіраўнікі антысавецкай падпольнай паўстанцкай арганізацыі, міністры планаванага ёю ўрада незалежнай буржуазнай Беларусі.

Спіс са 161 арыштаванай асобы «закардоннікаў» улучаў некалькі выкладчыкаў і вучняў закрытай польскай адміністрацыяй Радашковіцкай, а таксама навучэнцаў Віленскай беларускай гімназіі... Большасць з іх былі членамі Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі, што зведаў пераслед, рэпрэсіі польскай дэфензівы.

Мікола Васілеўскі паводле сваёй біяграфіі быў адпаведнай кандыдатурай, каб папоўніць стратны спіс, падрыхтаваны агентамі АДПУ ў 1933 годзе ў Мінску.

Ліст прафесара Калесніка, літаратуразнаўца і аўтарытэтнага педагога, падумалася, пэўна, можа быць цікавы і гісторыкам літаратуры. У ім, акрамя жывых вобразных згадак пра мастака Васілеўскага, нямала неардынарных фактаў, штрыхоў што да ўласнага жыцця літаратара, яго працы як даследчыка нашай літаратурнай спадчыны. У 70-я гады Уладзіміра Андрэевіча моцна захапілі творчы і жыццёвы шлях выдатнага нашага паэта-рамантыка, адраджэнца Уладзіміра Жылкі. Данесці вобраз драматычнай постаці рэпрэсаванага паэта было няпроста. Шмат чаго з літаратурнага жыцця, асабліва Заходняй Беларусі, у тым ліку некаторыя яе знакавыя постаці, заставаліся пад забаронай. У рэдакцыях аўтарскі тэкст «рэзаўся» ў адпаведнасці з цыркулярамі цэнзуры. Працавалася адказнаму гісторыку нашага прыгожага пісьменства складана. Прадчуваў цяжкасці і з публікацыяй працы. Гэта ў нейкай меры адбілася і ў прысланым лісце.

Думаю, што сёння змест ліста аўтарытэтнага лектара, аўтара курсу беларускай літаратуры і фальклору ў Брэсцкім універсітэце не без цікавасці прачытаюць многія яго выпускнікі, у тым ліку літаратуразнавец і самавіты празаік Уладзімір Гніламёдаў, паэты Васіль Жуковіч, Алесь Разанаў, Алесь Каско, Мікола Пракаповіч і іншыя.




**Брэст, 22.III.70 г.**

***Дарагі Арсень!***

*Вялікі Табе дзякуй за клопат і падмогу, і памяць. З радасцю прачытаў твайго Сергіевіча, адчуванне такое, як бы пагутарыў з блізкім сябрам пра трэцяга агульнага знаёмага, якога ведаў раней проста як мілага, бяскрыўднага чалавека, крыху дзівака, а тут убачыў яго многа паўней, аказалася, што ён як чалавек асабіста сумленны меў свае вострыя канфлікты з жыццём, з грамадскімі катаклізмамі, што праходзілі ў нашым краі. Малайчына ты, браце, Арсень!*

*Чытаючы асобныя мясціны, я пашкадаваў, што не ведаў твaёй працы ў рукапісу, бо мог бы сёе-тое падказаць. Так, напрыклад, Мікола Васілеўскі — мой зямляк, і я яго нават памятаю, хоць бачыў апошні раз, напэўна, недзе ў 1928 годзе, маючы 6 гадоў. Гэта быў інтэлігентны чалавек, акуляры прыдавалі нейкую выразную адухаўлёнасць яго твару і ўсёй постаці. Хадзіў у светлым плашчы і насіў капялюш. Калі ён прыязджаў з Вільні ў Сінеўскую Слабаду, а бывала гэта чамусьці летам, дык да іх у хату, якая і без таго, як бабыльская (жылі толькі бацька-астматык ды малодшы брат, гадаваны ў вайну і рэвалюцыю, рахітык) была месцам пасядзелак і карцёжных гуляў, да іх у хату валам валіла моладзь, а тыя хлопцы і дзяўчаты, якія мелі патрэбу ў духоўным дасканаленні, не адпускалі яго. Мы, жэўжыкі, заўжды ішлі як бы ў свіце па пэўнай адлегласці, але неадступна, калі Мікола Васілеўскі з сябрамі і сяброўкамі прагульваліся па вёсцы, накіроўваючыся да Нёмана. На беразе Нёмана ў нас спрадвеку было заведзена сабірацца моладзі для спеву, а сталым мужчынам для гаворак у цёплую пару года. Дык вось, з прыездам Васілеўскага маладыя актывізаваліся, і нават над Нёманам менш спявалі, а больш гутарылі.*

*У вёсцы Васілеўскі маляваў і прывозіў таксама гатовыя карціны для продажу. Сяляне, багацейшыя, куплялі гэтыя карціны. Мой бацька, паколькі мы перабраліся ў новую хату, купіў у Васілеўскага тры пейзажы: адзін быў зімовы — белы, ліловаты снег, зводдаль цёмна-ліловы алешнічак з маладымі елачкамі ўперамежку, на сярэднім плане справа — хатка лесніка, занесеная снегам, але з коміна ідзе вясёлы роўненькі дымок, на пярэднім плане злева — група старых бяроз, паўстае як з права налева — роўныя сляды палазін.*

*Другі пейзаж таксама зімовы, але вячэрні — неба смарагдавае ўгары, пераходзіць у аранжава-чырвонае над гарызонтам — марозны вечар, які абяцае халодны і ветраны дзень. На пярэднім плане злева стажок сена, прыкрыты шапкай пухнатага снегу. Да стога з маладога бярэзнічку ідзе лось, пакідаючы глыбокія сляды. Трэці пейзаж быў летні: густы сасновы бор з мілым далікатным падлескам — гарэзлівымі бярозкамі ды францістым ялаўчняком. Гэтыя пейзажы мяне дужа ўзрушалі ў дзяцінстве, і я сам маляваў, стараючыся хоць крыху быць падобным на Міколу Васілеўскага, але нічога не выходзіла, дакладней, выходзіла, ды не так далікатна, чыста, тонка. Потым я зразумеў, што справа была, акрамя ўсяго іншага, і ў тэхніцы: карціны Васілеўскага былі намаляваны гуашам на тоўстым кардоне, а я мог пэцкаць толькі благенькаю акварэллю, купленаю ў Абрамэлі за 20 грошай. Праўда, і пазней, у гімназіі, калі я меў добрыя акварэльныя фарбы, — усё роўна не мог дабіцца такой чысціні тона. Так і засталіся ў маёй памяці бойка накіданыя карціны Васілеўскага недасяжнымі ўзорамі тэхнікі жывапісу, ажно покуль не пабачыў мастацкай выстаўкі ў Навагрудку, на якой былі выстаўлены найвыдатнейшыя польскія мастакі-пейзажысты, у тым ліку Кэндзерскі, Зак і др. майстры, што працавалі акварэллю і тэмперай.*

*Жывуць яшчэ тыя хлопцы і дзяўчаты, з якімі дружыў Васілеўскі. Яны маглі б расказаць табе значна больш. Між іншым, адна сяброўка Нюша Парэцкая жыве ў Мінску. Яе адрас ведае мая дваюрадная сястра Тоня Каваленка, якая жыве па бульв. Шаўчэнкі.*

*Адносна ацэнак карцін Сергіевіча я з табою згодзен, ты робіш гэта пераканаўча і любоўна. Але, відаць, часам любоў крыху цябе заносіць. Сергіевіч, на маю думку, майстар партрэта і знаўца сялян. Тут ён наймацнейшы. Гэта заходнебеларускі Брэйгель мужыцкі. Партрэт і тэматычная карціна, на якой селянін-беларус, — вось самае моцнае і арыгінальнае ў Сергіевіча. Добра, па-свойму, дае і «мужыцкі» пейзаж як асяроддзе, у якім жыве селянін. Але інтэлігенцыя, яе жыццё і інтэлігентнасць як жыццё духа, пажыраючае цялеснасць, для Сергіевіча амаль недаступна. Гэта не яго амплуа. Ён не філосаф і не псіхолаг — інтэлектуаліст. Партрэты інтэлігентаў (нават партрэты) слабыя: Багушэвіча нібы схапіў параліч і ён вось-вось ссунецца з крэсла, Максім Танк пазіруе, ды ў такой нязручнай позе, што хочацца сказаць — ды сядзьце ж, Яўген Іванавіч, зручней і рук не трымайце так нязграбна, як у пакойніка. Адным словам, партрэты інтэлігентаў у яго — шwах. Выключэнне складаюць два — аўтапартрэт, які ты даў на вокладцы, і партрэт скульптара-літоўца. Яны моцныя, але таму, што малююць моцных жыццярадасных і напорыстымі натурамі поўінтэлігентаў. Жывапісцы — а скульптары і тым больш — гэта поўінтэлігенты, бо іх прафесія стаіць на стыку духоўнай творчасці і рамяства.*

*Мажліва, я тут перагібаю. Твой аналіз праз мастака сардэчны і захапляючы. Дзякуй.*

*За тэксты вершаў Жылкі — дзякую. Зб. «З роднай нівы» ў мяне ёсць, а вось зб. «Зах. Бел.» — не меў і не ведаў, што менавіта гэты тэкст у ім друкаваўся. Хочу спісацца з Мядзёлкай, але не ведаю яе адрасу, можа ў цябе ёсць? Мне піша жонка Ул. Жылкі, што ён сябраваў з выкладчыкам музтэхнікума, які пераклаў на беларускую мову «Фаўста» Гуно, толькі не ведае яго прозвішча (мусіць Юльян Дрэйзін). Ці няма ў Вас у інстытуце чалавека, які б ведаў, хто і калі пераклаў гэту оперу на бел. мову і якія акторы ўдзельнічалі ў першых пастаноўках на беларускай мове? Буду Табе абавязан, калі чыркнеш пару слоў. Ва ўчарашняй «Звяздзе» крытыкуюць гісторыкаў за недакладнае і некампетэнтнае адлюстраванне працэсу ўтварэння БССР — хто тут маецца на ўвазе і ў чым справа? У Вас, пэўна, нешта чуваць больш канкрэтнае. Баюся, каб не трапіць у прыкрасці са сваім Жылкам.*

*Бывай. Цісну руку. Ул.Калеснік.*

***P.S.*** *Дарагі Арсень, ці не траплялася Табе калі-небудзь прозвішча Galina Litycska — гэта вільнянка, у 1925—1926 г. перапісвалася з Жылкам, пасылала вершы свае яму ў Прагу. Адказваць прасіла на Poste restante. Цікава б даведацца, што за яна?*



# Джазавыя вечары сямі краін Еўропы

**Музыканты з сямі еўрапейскіх краін свету выступяць з канцэртамі ў межах трэцяга фестывалю «Джазавыя вечары з Банкам БелЗЭБ», якія пройдуць у чэрвені ў цэнтры Мінска, паведамілі арганізатары праекта з міжнароднага сацыяльна-эканамічнага фонду «Ідэя».**

Сёлета джазавы фестываль збярэ на пляцоўцы перад канцэртнай залай «Верхні горад» на мінскай плошчы Свабоды як айчынных музыкантаў, так і прадстаўнікоў Вялікабрытаніі, Германіі, Даніі, Польшчы, Францыі і Швецыі. Акрамя джазу, музыканты парадуюць жыхароў і гасцей сталіцы выкананнем кампазіцый у стылі блюз, соўл і этна.

Першы джазавы вечар, 6 чэрвеня, адкрыюць датчане — вакаліст Мадс Матыяс і піяніст Піцер Розендаль. Услед за імі на сцэну падымуцца музыканты шведскага гурту «Copro». Вечар завершыцца выступленнем беларускага джаз-трыа Канстанціна Гарачага.

Выступленне польскай спявачкі Беаты Пшыбытак адкрые 13 чэрвеня другі джазавы вечар гэтага фестывалю. Польскіх музыкантаў зменіць трыа «Агонь і вада» на чале з гітарыстам Нгуенам Ле (Францыя), трубач Клаус Штэтар (Германія) і беларускі калектыў «Morfe» Аганеса Аванесяна.

Фестываль завершыцца 20 чэрвеня канцэртам брытанскага саксафаніста Дзяніса Баптыста, які выступіць разам з вядомымі беларускімі джазменамі з «Apple Tea».

Праект «Джазавыя вечары з Банкам БелЗЭБ» рэалізуецца пры садзейнічанні Мінгарвыканкама, пасольства Францыі ў Беларусі, Французскага інстытута ў Парыжы, Польскага інстытута ў Мінску, Франка-нямецкага культурнага фонду, мінскага філіяла Інстытута імя Гётэ, канцэртнага агенцтва «Эквілібрыум АРТС» і музычнай студыі «Black Cat». Генеральным партнёрам фестывалю выступае Банк БелЗЭБ.

**БелаПАН**

# Прэзентацыя дзіцячага альманаха «Гарбузік»

**18 мая музей навукі Элемента: «Гарбузік» прызначае сустрэчу цікаўным дзеткам ды іхным неабыякавым бацькам!**

Каманда літаратурна-забаўляльнага дзіцячага альманаха «Гарбузік» прыдумала забаўлянкі, вершы, рэбусы, заданні, гульні, саматробкі ды іншыя сюрпрызы — і хоча пазнаёміць з імі даўніх ды новых сяброў! А звар'яцелы прафесар Леапольд Мазгакруцікаў адмыслова для чытачоў «Гарбузіка» пакажа найцікавейшыя таямніцы сваёй лабараторыі!



Не спазніцеся на сустрэчу: панядзелак, 18 мая, 18.30, музей навукі Элемента http://elemento.by/ (вул. Алешава, 1, праезд трамваем 5 ці 11 да прыпынку Севастопальскі). Уваход вольны. Калі ласка, напішыце на harbuzik.by@gmail.com, што збіраецеся прыйсці.

**lit-bel.org**

# Астэрыя Грандэ Вясковая ідылія

*Алесь КІРКЕВІЧ*

**«Паедзеш?» «Паеду, канешне...» — вось і ўсё запрашэнне. Так пачалося спантаннае падарожжа па Італіі, куды ўдалося трапіць дзякуючы прапанове айца Сяргея Гаека. Чатыры эсэ — чатыры мясціны. Астэрыя Грандэ, Падуя, Венецыя ды Рым.**




Фота аўтара



Першы прыпынак, куды едзем з а.Сяргеем з аэрапорту ў Балоны, — Астэрыя Грандэ. Нягледзячы на прыстаўку «грандэ» (вялікі), гэта ўсяго толькі мястэчка альбо сельсавет накшталт Сапоцкіна.

Прымае святар дон Арнальда. Цікава, што «дон», як і ў польскай «ксёнжа», гэта адначасова азнака як духоўнага сану, так і шляхецтва — такая традыцыя. Плябанія пабудаваная побач з неараманскім храмам святога Юрыя з чырвонай цэглы ды каляровымі мазаікамі на ўваходах.

У пакойчыку на другім паверсе, дзе давядзецца ночыць, адразу кідаецца ў вочы: уся мэбля — антыкварная. За гнутыя ножкі камодаў і літыя бронзавыя ручкі драўляных дзверцаў у Беларусі трэба было б выкласці цэлы капітал...

«Яны ж гэтага не купляюць у антыкварыяце, — тлумачыць а. Сяргей, які пражыў у Італіі 10 год, — яно наўпрост тут заўжды стаяла, ніхто нічога не выкідаў».

Сапраўды, стаўленне да спадчыны ў Італіі выключнае. Прыватныя дамы крытыя чырвонай дахоўкай таксама, як і за часамі імператара Траяна. Гістарычныя ландшафты з алеямі пірамідальных таполяў засталіся такімі ж, як і дзве тысячы год таму.

На вячэрнюю літургію прыходзіць ад сілы чалавек дзесяць, збольшага людзі сталага ўзросту. Гэта агульнаеўрапейская тэндэнцыя, да якой усе звыкліся. Разам з тым пры парафіі моладзь ладзіць курсы танцаў, трэніроўкі па дзюдо, ёсць баскетбольная пляцоўка — жыццё ў невялічкіх мястэчках не спыняецца, наўпрост змяняе формы.

Перад вячэрай заходзім у парафіяльную бібліятэку. Сярод кніжных шыхтоў партрэт папярэдняга параха — увесь свой кнігазбор ён перадаў царкве. Томікі на паліцах не заўжды закранаюць рэлігійныя пытанні: шмат працаў па гісторыі, паходжанні этрускаў, старажытнасцях правінцыі Эмілья-Романа, куды ўваходзіць парафія.






Асобна — палічка старадрукаў. Некаторыя тамы ў вокладках з пергаменту сягаюць XVII стагоддзя. Для Італіі гэта не ўзрост... Праз пару гадоў дону Арнальда споўніцца 75, і ён мецьме падаць у адстаўку. Ягоны кнігазбор, верагодна, таксама застанецца тут.

Напярэдадні вячэра — сапраўдны рытуал у кожным італійскім доме. Нарэшце бачым усю сям'ю: 94-гадовую цяжка хворую маці дона Арнальда і ўсмешлівую служанку з Эрытрэі, якая яе даглядае. Традыцыйна, большасць працоўных эмігрантаў тут — гэта афрыканцы з розных краёў (найперш з Эфіопіі, былой італійскай калоніі), філіпінцы ды... украінцы.

Мясцовае меню можа падацца не зусім звыклым для ўсходнееўрапейскага страўніка. Зранку ты п'еш толькі каву з круасанам. Абед — гэта паста, лазанья альбо рыж. Суп з макаронаў і гародніны, прысыпаны драбнюткім пармезанам, падаюць менавіта ўвечары. Традыцыйны дадатак — хлеб «тыджэра» — гэта здобныя булачкі, якія падаюць падагрэтымі. Ну і, канешне ж, чырвонае віно, зусім не лішняе за святарскім сталом.

Аб адзінаццатай усе разыходзяцца па сваіх пакоях. За адчыненымі аканіцамі ў цемры яшчэ чутно музыку: у плябаніі акурат заканчваюцца ўрокі танцаў.

**Працяг будзе**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 639

Падпісана да друку 15.05.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.